асцярожна, бо мэты не супадаюць.

Таварыскія адносіны князёў не абмяжоўваліся сумеснай дзейнасцю на ніве асветы. Разам яны займаліся палітыкай і ваеннай справай. Так, вядома, што князі бралі ўдзел у паходах на татар. Цікава прасачыць і палітычную пазіцыю князёў у дачыненні да Маскоўскай дзяржавы. Ён акуратна ставіўся да вайны з Масквой, бо галоўным яго ворагам усё ж былі татары. У той жа час успрымаў яе як вайсковага і палітычнага праціўніка, небяспечнага для Рэчы Паспалітай і для Кіеўшчыны ў прыватнасці. Ён баяўся, што калі маскоўцы нападуць, то не зможа абараніць межы. Са сваім пастаянным жаданнем да замірэнняў і кампрамісаў Астрожскі, сумесна з чарнігаўскім ваяводам, арганізаваў сустрэчу «памежных камісій» Рэчы Паспалітай і Расіі. Паказвае стаўленне князя да Масквы такі выпадак. У часе паходу Ілжэдзмітрыя І на Маскву (гэты паход Астрожскі рашуча асуджаў) да Васіля-Канстанціна прыбыло пасольства ад маскоўскага патрыярха Іова. У сваім пасланні патрыярх прасіў Астрожскага паспрыяць затрыманню самазванца і адыходу войска Рэчы Паспалітай ад Масквы. Але князь не захацеў супрацоўнічаць з Маскоўскай дзяржавай, і ў адказ на пасланне ён проста арыштаваў аднаго з патрыяршых паслоў. Працяг гэтая гісторыя атрымала пасля забойства самазванца. Патрыярх адправіў да Астрожскага пасланца, «каб ён (Астрожскі) таму парадаваўся (забойству Лжэдзмітрыя)». Але князь быў зусім не рады. Ён пасадзіў маскоўскага патрыяршага пасла ў вязніцу, не жадаючы кантакту з ворагамі [4, с. 227–229].

У Курбскага былі яўна глыбейшыя і больш супярэчлівыя адчуванні датычна Масквы. З аднаго боку, гэта была яго радзіма. З іншага, радзімай кіраваў ягоны закляты вораг – Іван IV, якога Курбскі лічыў антыхрыстам, увасабленнем д'ябла. «Расійскае пытанне» абвастрылася для яго ў 1572 г., у часы бескаралеўя, калі Іван Грозны меў рэальны шанец стаць вялікім князем і каралём Рэчы Паспалітай. Наўрад ці тады Курбскага чакала б літасць. Вядома, што Курбскі прыязджаў у госці да свайго таварыша К. Астрожскага, у

тым ліку такі візіт меў месца ў жніўні–кастрычніку 1572 г. Магчыма, у час яго абмяркоўваліся невясёлыя перспектывы ўзыходу на трон РП расійскага цара [2, с. 69].

Стасункі А. Курбскага і В.-К. Астрожскага доўжыліся каля пятнаццаці гадоў. Вясной 1583 г. князь Курбскі памёр, прызначыўшы апекуном для жонкі і дзяцей менавіта князя Астрожскага [11, с. 231]. Відаць, у такім прызначэнні быў пэўны меркантыльны разлік: Курбскі пакідаў па сабе шмат даўгоў і нявырашаных матэрыяльных спрэчак. Відавочна, ён спадзяваўся, што Астрожскі дапаможа Аляксандры Сямашкаўне Курбскай іх вырашыць. У той жа час князь наўрад ці б зрабіў апекуном сваіх дзяцей чалавека, якому не давяраў бы. Падаецца, Астрожскі быў самым надзейным чалавекам з мясцовых знаёмых Курбскага.

Погляды двух князёў у многім фарміраваліся пад уздзеяннем сямейнага выхавання, але амаль не перадаліся іх дзецям, якімі збольшага, відаць, займаліся жонкі. Калі Астрожскі здолеў выхаваць хаця б аднаго з сыноў так, каб той прытрымліваўся праваслаўя на працягу ўсяго жыцця, то дзеці Курбскага былі яшчэ малымі, калі князь памёр, і не паспелі пераняць прынцыпаў свайго бацькі ды яго роду. Дзеці князёў не маглі і не бачылі сэнсу супрацьстаяць ціску дзяржаўнай палітыкі і ідэалогіі, бо не мелі такой інтэлектуальнай моцы, якая вылучала іх продкаў.

Паплечніцкая, таварыская грамадская дзейнасць А.М. Курбскага і К.К. Астрожскага паспрыяла стварэнню значнага пласта культуры Рэчы Паспалітай. Курбскі і Астрожскі ўспрымалі інтэлектуальную працу як вялікую каштоўнасць і былі здольныя ацаніць інтэлектуальныя магчымасці адзін аднаго, рабілі спробы іх аб’яднаць. Князі праявілі сябе як добрыя арганізатары: Курбскі здолеў аб’яднаць вакол сябе кола захопленых перакладчыкаў, а Астрожскі дзякуючы сваім сувязям і сродкам змог стварыць школу з высокім узроўнем выкладання. Галоўнай духоўнай спадчынай двух князёў-інтэлектуалаў сталі працы Міляновіцкага гуртка перакладу і перапіскі кніг (пераклады

твораў айцоў царквы (Іаана Златавуста, Іаана Дамаскіна), антычных аўтараў (Цыцэрона, Арыстоцеля), жыціі Сімяона Метафраста і інш.) ды Астрожская акадэмія, якая выхавала новае пакаленне інтэлектуалаў і дзяржаўных дзеячаў.

The articleis devoted to the relationship between two famous orthodox princes of XVI century A. Kurbski and K. Ostrogski. The reasons for a close princes' partnership reveals in the text. Author points out common and specific features in mentality and perception of the world of two princes, whose joint activity significantly affected on the culture and enlightenment on East Slavic lands and all The Kingdom of Poland and the Grand Duchy of Lithuania.

### *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Жизнь Андрея Михайловича Курбского в Литве и на Волыни. – Т. 1. – Киев, 1849. – 337 с.
2. Филюшкин, А.И. Андрей Михайлович Курбский: Просопографическое исследование и герменевтический комментарий к посланиям Андрея Курбского Ивану Грозному. – СПб.: Издательство СПбУ, 2007. – 624 с.
3. Предисловие к «Новому Маргариту» // Библиотека литературы Древней Руси. – Т. 11. – С. 554–559.
4. Kempa, T. Konstanty Wasyl Ostrogski (ok.1524...1525 – 1608), wojewoda kijowski i marszalek ziemi wołyńskiej. – Toruń: Wyd. Uniwersytetu Mikołaja Kopernika, 1997. – 288 s.
5. Реестр товаров, взятых князем Курбским из лавки Григория Федоровича // Жизнь Андрея Михайловича Курбского в Литве и на Волыни. – Т. 1. – Киев, 1849. – С. 310–314.
6. Первое послание князю Константину Острожскому // Библиотека литературы Древней Руси. – Т. 11. – С. 540–543.
7. Второе послание князю Константину Острожскому // Библиотека литературы Древней Руси. – Т. 11. – С. 544–545.
8. Послание Кодиану Чапличу // Библиотека литературы Древней Руси. – Т. 11. – С. 530–537.
9. Третье послание князю Константину Острожскому // Библиотека литературы Древней Руси. – Т. 11. – С. 546–551.
10. Послание А. Курбского княгине Чарторыйской // Библиотека литературы Древней Руси. – Т. 11. – С. 538–540.
11. Завещание князя Андрея Михайловича Курбского Ярославского // Жизнь Андрея Михайловича Курбского в Литве и на Волыни. – Т. 1. – Киев, 1849. – С. 228–242.

*Навуковы кіраўнік –* **А. А. Яноўскі**, *кандыдат гістарычных навук, прафесар.*

УДК 947.6/82

*В.В. Кітурка*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

# МЕМУАРЫ МІХАЛА КЛЕАФАСА АГІНСКАГА ЯК КРЫНІЦА ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

В статье дается краткий обзор позиции Михаила Клеофаса Огинского на политические события в Речи Посполитой во второй половине XVIII в. на основании его мемуаров «Про Польшу и поляков с 1788 до 1794 г.». Главный источник (мемуары) представляет закулисную дипломатическую борьбу Прусской и Российской дипмиссий, а также центральное событие Четырехлетнего сейма – принятие Конституции 3 мая 1791 г. и ее оценка европейским политикам.

«Адзінае пачуццё, якое мною кіравала,
была любоў да Радзімы».
М.К. Агінскі.

2011 год стаў знакавым для беларускай гістарыяграфіі: на беларускай мове ў часопісе «ARCHE» была выдадзена частка «Мемуараў пра Польшчу і палякаў з 1788 да 1794 г.» Міхала Клеафаса Агінскага. Поўны тэкст «Мемуараў», напісаных аўтарам на французскай мове, якія ахопліваюць перыяд з 1788 да 1815 г., упершыню былі выдадзены на мове арыгінала ў Парыжы ў 1826–1827 гг. Інтарэс да неардынарнай асобы Міхала Клеафаса Агінскага спрыяў іх перакладу на розныя мовы ўжо ў XIX ст.: у 1845 г. – на нямецкую, у 1870-х – на польскую. У пачатку XXI ст. даследаванне дзейнасці М.К. Агінскага і ўсведамленне яго ролі ў гісторыі Рэчы Паспалітай (Беларусі, Польшчы і Літвы) прывялі да выдання яго «Мемуараў» па-літоўску (2007–2010 гг.). Нарэшце быў пакладзены пачатак выданню па-беларуску.

Асоба М.К. Агінскага (1765–1833 гг.) не патрабуе адмысловага прадстаўлення: дыпламат і паўстанец, палітычны дзеяч і эмігрант [1, с. 75]. Сам Агінскі ў сваіх мемуарах піша наступнае: *«Прыняўшы рашэнне паведаміць пра апошнія падзеі ў Польшчы, у якіх я браў удзел у той*

*ці іншай ступені, я павінен заўважыць, што пачаў у вельмі маладым узросце служыць маёй краіне і быў паслядоўна: прадстаўніком заканадаўчага корпуса, надзвычайным пасланнікам у Галандыю, павераным, накіраваным з місіяй у Англію, міністрам скарбу ВКЛ, жаўнерам падчас Польскай рэвалюцыі, агентам польскіх патрыётаў у Канстанцінопалі і Парыжы, быў адлучаны ў выніку маёй эміграцыі на працягу многіх гадоў і прызначаны ў пецярбургскі Сенат імператарам Аляксандрам»* [1, с. 465–466]. Разам з тым, у айчыннай гістарыяграфіі М.К. Агінскі разглядаецца, у першую чаргу, як аўтар двух знакамітых твораў: паланэза «Развітанне з радзімай» і «Плана Агінскага» 1811 г. Выданне беларускамоўнага перакладу яго «Мемуараў» дазволіць даследчыкам больш глыбока вывучаць спадчыну М.К. Агінскага, яго дзейнасць на ніве палітычнага, эканамічнага і грамадскага жыцця Рэчы Паспалітай у апошняй чвэрці XVIII ст.

М.К. Агінскі знаходзіўся ў віхуры палітычных падзей і рэфарматарскіх працэсаў, якія разгарнуліся ў Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. Іх вяршыняй стаў Чатырохгадовы сойм (1788–1792), які аўтар называе Векапомным. Гаворачы пра неабходнасць яго правядзення, М.К. Агінскі так апісвае становішча РП: *«Войны, якія Саксонія павінна была весці супраць Швецыі, а потым супраць Фрыдрыха II, вычарпалі вайсковыя і грашовыя рэсурсы Польшчы; увядзенне ў звычай раскошы і замежных нораваў дэмаралізавала тых, хто быў звязаны з дваром, і ўсё гэта прывяло да заняпаду былую польскую годнасць, якая саступіла месца схільнасці да задавальненняў і марнага баўлення часу.*

*...Менавіта так – калі Расія, Аўстрыя і Прусія арганізоўвалі свае ўрады, заахвочвалі развіццё сельскай гаспадаркі, прамысловасці і гандлю, апекаваліся навукамі і мастацтвам і павялічвалі сваю магутнасць, Польшча бяднела, дэзарганізоўвалася ва ўсіх адносінах і паціху рыхтавала сабе сумны лёс, які быў ёй наканаваны. Мінуў той час, калі толькі шаблі было дастаткова, каб прымусіць ворага адступіць»* [2, с. 473].

Аўтар падкрэсліваў, што ў канцы 1780-х гг. да найбольш патрыятычнай часткі палітычнай эліты грамадства прыйшло асэнсаванне, што для правядзення рэформаў унутры дзяржавы патрэбна спрыяльная міжнародная сітуацыя, якая якраз і ўзнікла ў канцы 80-х гг. XVIII ст. [3, с. 234].

Каштоўнасць дадзеных мемуараў як крыніцы заключаецца і ў тым, што аўтар прыводзіць ноты і мемарандумы расійскага і прускага паслоў. У сваіх мемуарах Агінскі падрабязна апісаў закулісную дыпламатычную барацьбу Прускай і Расійскай дыпламатычных місій падчас працы Чатырохгадовага сойма. Пры гэтым М.К. Агінскі адзначаў, што *«сойм зусім не быў пазбаўлены недахопаў, нягледзячы на руплівасць, энтузіязм і найлепшыя намеры, якія натхнялі пераважную частку яго ўдзельнікаў»* [2, с. 483].

Аўтар эмацыянальна, практычна пакрокава апісаў этапы правядзення сойма: ад яго адкрыцця ў Варшаве 6 кастрычніка 1788 г. да мая 1792 г. – часу прыпынення яго працы ў сувязі з дзейнасцю Таргавіцкай канфедэрацыі.

Натуральна, цэнтральнай падзеяй гэтага сойма стала прыняцце Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Міхал Клеафас Агінскі ведаў гэты працэс знутры, паколькі ўваходзіў у Дэпутацыю, створаную 7 верасня 1789 г. для падрыхтоўкі асноўных палажэнняў будучай канстытуцыі. Агінскі ўспамінаў, што *«напярэдадні гэтай незабыўнай падзеі патрыёты сабраліся бліжэй да вечара ў палацы Радзівіла, каб паслухаць чытанне канстытуцыйнага акта. Пачаліся ўсеагульныя воплескі, і суцэльная згода не была парушаная ніякім супрацівам…»* [2, с. 525].

Уражвае апісанне Агінскім акта прыняцця Канстытуцыі. Ён падкрэсліваў, што *«ўвесь сойм памкнуўся да трону, дзе ўзвышанасць караля, велічная і бацькоўская, выклікала столькі ж энтузіязму, як і даверу, захаплення і ўдзячнасці ва ўсіх тых, хто яго атачаў. Кароль, загадаўшы кракаўскаму біскупу чытаць клятву, якую ён гучна паўтарыў, дадаў:*

*«Я пакляўся і не раскаюся ў гэтым ніколі. Я заклікаю ўсіх тых, хто любіць радзіму, пайсці за мною ў касцёл, каб прыняць там тую ж прысягу». Ён пакінуў свой трон, прайшоў праз усе залы і калідоры, што вялі ад замка да кафедральнага сабора, за ім рухаўся ўвесь сойм. Натоўп гледачоў ціснуўся абапал ягонага шляху ў радасным ап'яненні, выказваючы шчырыя зычэнні каралю і аўтарам Канстытуцыі»* [2, с. 527].

Для асэнсавання ролі Канстытуцыі ў Еўропе важным аспектам з'яўляецца прыведзеная ў «Мемуарах» яе ацэнка англійскім палітыкам і публіцыстам, ідэолагам брытанскага кансерватызму Эдмундам Бёркам: *«Чалавецтва павінна радавацца і ганарыцца, калі яно ацэньвае змену ў Польшчы: нічога там няма слабога, нічога ганебнага. Гэтая змена такая ўзвышаная паводле сваёй прыроды, што яна будзе самым высакародным і выдатным дабратворным уздзеяннем, аказаным на чалавечы род. Мы ўбачылі разбурэнне анархіі і рабства; мы ўбачылі трон, які не пакрыўдзіў свабоды, будучы ўзмоцнены любоўю нацыі, мы ўбачылі таксама іншаземныя змовы, ліквідаваныя заменаю выбараў на спадчыннасць. Дзесяць мільёнаў чалавек, прывязаных да адпрацоўкі зямлі, стануць паступова вольнымі; і, што ёсць шчасцем як для іх, так і для іхнай краіны, яны будуць пазбаўленыя не грамадзянскіх і палітычных правоў, якія могуць падацца цяжарам толькі сапсаванаму розуму, але тых, якія трымалі іх скутымі сапраўдным рабствам...»* [2, с. 531].

Разам з тым Агінскі паказвае трагізм далейшых падзей, вызначае змены ў адносінах Прускага і Расійскага двароў да Рэчы Паспалітай у сувязі з Французскай рэвалюцыяй 1792 г., стварэнне Таргавіцкай канфедэрацыі і Другі падзел Рэчы Паспалітай.

Неабходна падкрэсліць, што мемуары напісаны добрай літаратурнай мовай, а па жанру наближаны да мастацкай прозы і часам нагадваюць прыгодніцкі раман [4, с. 32].

Такім чынам, апублікаваная частка «Мемуараў» М.К.

Агінскага з'яўляецца каштоўнай крыніцай па палітычнай гісторыі Беларусі апошняй чвэрці XVIII ст. Яна дазваляе вывучаць унутраную сітуацыю ў Рэчы Паспалітай у апошняй чвэрці XVIII ст., прычыны і неабходнасць правядзення рэформ, ролю Расійскай і Прускай дыпламатычных місій, «тэмпературу» палітычнага жыцця ў час прыняцця Канстытуцыі, прычыны ўтварэння Таргавіцкай канфедэрацыі і паражэння Чатырохгадовага сойма.

Безумоўна, апісаныя аўтарам падзеі патрабуюць усебаковага разгляду з выкарыстаннем іншых крыніц. Але са старонак мемуараў паўстаюць жывыя асобы, іх перажыванні, апісанне грамадска-палітычнай сітуацыі, чаго няма ў афіцыйных дакументах. Менавіта па гэтай прычыне мемуары з'яўляюцца адмысловай крыніцай для даследчыкаў.

This article provides a brief overview of the position of Michael Cleophas Oginski to political developments in the Polish–LithuanianCommonwealth during the second half of the XVIII century, based on his memoir "About Poland and the Poles from 1788 to 1794." The main source (memoirs) is behind the scenes diplomatic struggle Prussian and Russian diplomatic missions, as well as the central event of the Sejm - the adoption of the Constitution of May 3, 1791 and the average of European politics.

## *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Агінскі Міхал Клеафас // Беларуская Энцыклапедыя: у 18 т. – Мінск, 1996. – Т. 1. – С. 75.
2. Агінскі, М.К. Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788 да 1794 гг. / М.К. Агінскі // ARCHE. – 2011. – № 6. – С. 463–722.
3. Агінскі, М.К. Мая біяграфія: з дзяцінства па 1788 г., эпоху, калі пачынаюцца мае мемуары / М.К. Агінскі // Спадчына. – 1998. – № 5. – С. 81–89; № 6. – С. 226–237.
4. Ліс, Я. Палітык М.К. Агінскі / Я. Ліс // Спадчына. – 1996. – № 2. – С. 30–35.

*Навуковы кіраўнік –* **І.Ф. Кітурка***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.*

УДК 94(476)

*А.А. Кайрыс*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

# ДЗЕЯННІ ПАЎСТАНЦАЎ У ГРОДЗЕНСКАЙ ГУБЕРНІ З САКАВІКА ПА ЛІПЕНЬ 1863 г. ПАВОДЛЕ ДАНЯСЕННЯЎ І РАПАРТАЎ МЯСЦОВЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ

В статье на основе архивных материалов рассматриваются действия повстанческих отрядов в Гродненской губернии в период с марта по июль 1863 г. Делается вывод о партизанском характере борьбы.

У часы паўстання 1863–1864 гг. на тэрыторыі Гродзеншчыны быў арганізаваны адзін з самых моцных ачагоў супраціву царскім войскам. Аб гэтым сведчаць матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, у прыватнасці, «Справа аб мяцежніках Гродзенскай губерні», якая захоўваецца ў фондзе № 3 «Гродзенская губернская камісія па палітычных справах» [1]. Справа была пачата 21 красавіка 1863 г., скончана 22 лістапада 1863 г. Яе аб'ём – 146 аркушаў. Дадзены дакумент складаецца з рапартаў і данясенняў мясцовых чыноўнікаў гродзенскаму генерал-губернатару фон Галеру. Паўстанне было накіравана супраць расійскага ўрада, таму трэба ўлічваць, што да дзейнасці паўстанцаў, натуральна, чыноўнікі ставяцца адмоўна. Дадзеная крыніца, несумненна, аднабаковая, яна адлюстроўвае ўрадавы погляд на падзеі паўстання. Гэты дакумент з'яўляецца даволі тыповым, таму на прыкладзе яго можна рабіць некаторыя агульныя высновы. З дапамогай матэрыялаў гэтай справы можна паказаць, што адбывалася на тэрыторыі Гродзенскай губерні ў гэты час, даць характарыстыку дзеянням паўстанцаў.

Першыя звесткі аб актыўных дзеяннях паўстанцаў адносяцца да 29–30 сакавіка 1863 г. Паведамляецца, што інсургенты пасеклі два масты пры вёсках Бершты і Якубовічы [1, арк. 8а]. Зразумела, што гэта быў не акт вандалізму, а звычайная вайсковая справа па парушэнню камунікацыяў ворагаў.

З 30 па 31 сакавіка 1863 г. у лясніцтве прапаршчыка Дэльпанса атрад інсургентаў адабраў у двух стралкоў два казённых ружжа, два цесакі і патранташы [1, арк. 8б]. Далей ідуць звесткі, што 20 красавіка каля 200 інсургентаў прыйшлі ў м. Азёры, дзе ў адстаўнога палкоўніка адабралі два ружжа, а ў мясцовага ляснічага «отобрали и сожгли ценные бумаги, забрали 316 руб. за продажу леса, 134 руб. на постройку дома и 25 руб. 30 коп. остаточных с 1862 г. и собственных 125 руб., а также 55 ружей, 2 тесака, 2 ружья со штыками, 2 двуствольных ружья, одноствольное ружье, револьвер, 2 пистолета, пороху 22 фунта, пуль 25 фунтов, два тома законов и казенную писать» [1, арк. 16]. Відавочна, што ў паўстанцаў адчуваўся недахоп зброі, які яны ліквідавалі з дапамогай рэквізіцый. Леснікі і адстаўныя ваенныя былі ідэальнымі аб'ектамі для гэтага, бо яны мелі службовую зброю і жылі адасоблена.

26 красавіка 1863 г. у 5 гадзін раніцы да стралка Міхаіла Мартынава Грыга ва Узбераж прыбылі 14 узброеных мяцежнікаў. Адабралі казённае ружжо, шаблю, патронніцу і яго асабістае ружжо. Прымусілі яго правесці іх да м. Ягор Гродзенскага лясніцтва, а потым адпусцілі. Каля 8 гадзін раніцы ў гэты ж дзень паўстанцы прыбылі ва ўрочышча Ельнік да стралка Казіміра Осіпава Тамашэвіча. Забралі тое самае, што і ў Міхаіла Грыга, а затым прымусілі правесці да ўрочышча Бабіна да стралка Грыгорыя Хоха, адтуль, скарыстаўшыся момантам, Тамашэвіч уцёк [1, арк. 46]. Як бачна, паўстанцы не толькі ліквідавалі недахоп зброі ў атрадах рэквізіцыямі ў стралкоў, але і прымушалі іх выконваць функцыі праваднікa. Пры гэтым стралкі былі прымушаныя вадзіць паўстанцаў да сваіх жа баявых таварышаў.

Акрамя зброі, паўстанцы забіралі ў мясцовага насельніцтва харчовыя прыпасы і фураж. 9 ліпеня 1863 г. у Рудавы прыбылі 32 інсургенты, якія былі ўзброены двуствольнымі ружжамі, пісталетамі, рэвальверамі. З'явіліся яны на царкоўнай службе. Потым папрасілі для коней аўса, а таксама паставіць самавар, каб выпіць гарбаты [1, арк. 64]. Неабходна звярнуць увагу на той факт, што адкрыта прыходзіць у

пасёлак, наведваць царкоўную службу, заставацца на гарбату паўстанцы маглі сабе дазволіць толькі пры ўмове поўнай упэўненасці ў падтрымцы мясцовага навельніцтва. Аднак рызыка была вялікая. У любы момант маглі з’явіцца салдаты. Можна сцвярджаць, што паўстанцы і жыхары дадзенага населенага пункта былі ў добрых стасунках.

Наведваліся паўстанцы за прадуктамі і да мясцовых памешчыкаў. 11 ліпеня 1863 г. каля 80 узброеных інсургентаў з’явіліся на хутары маёнтка Старжылак, потым пайшлі да ўпраўлення памешчыка Незабытоўскага і там патрабавалі харчаванне [1, арк. 66].

14 ліпеня 1863 г. каля 2 гадзін ночы ў двор маёнтка Аліевіча прыйшлі каля 40 інсургентаў і абудзілі прыказчыка Астрауха. Пачалі пачалі патрабаваць гарэлку, але той адмовіў. Тады паўстанцы зайшлі ў памяшканне для працоўных, узялі 4 хілбы і зніклі. 15 ліпеня 1863 г. каля 30 узброеных інсургентаў прыбылі ў маёнтак Заблоць і патрабавалі вядро вады, а таксама ўзялі палову фунта мыла [1, арк. 68б, 72б].

15 траўня 1863 г. з вёскі Шушы ў маёнтак Пагарэнда, які належаў Івану Міхайлаву Умновічу (прозвішча напісана неразборліва. – *А.К.*) і яго сыну Якаву, які з’яўляўся памочнікам стралка, уначы заявіўся атрад інсургентаў з косамі пад кіраўніцтвам невядомага капітана і прабыў там двое сутак. За гэты час капітан двойчы загадваў павесіць гаспадара, якому было 67 гадоў. Старога дапытвалі, куды ён схаваў нейкага Гарбачэўскага, пра якога гаспадар нічога не ведаў. Затым яго прывязалі да дрэва, але пасля здзекаў і запалохвання адпусцілі. Пасля гэтага стары злёг. Капітан таксама дапытваў астатніх членаў сям’і. Загадваў біць, спачатку нагайкай, потым розгамі. Стралецкі селянін Ульян атрымаў 200 ударaў. Тое самае здарылася і з Якавам, памочнікам стралка і сынам гаспадара маёнтка, які атрымаў каля 400 ударaў. Жонцы Марылі далі 20 ударaў, а старой Разаліі, якая мела 70 год, – 4 удары. Праз некаторы час у гэты маёнтак былі накіраваны расійскія салдаты [1, арк. 86–88]. Паколькі з гэтага рапарта відаць, што атрад інсургентаў быў узброены косамі, то мож-

на дапусціць, што ён складаўся з сялян, бо касінерамі былі, як правіла, сяляне. Магчыма, гэтыя сяляне да адмены прыгону належалі Івану Міхайлавічу, ён жа мог даволі жорстка паводзіць сябе са сваімі прыгоннымі, таму, магчыма, такім спосабам сяляне, якія пайшлі ў паўстанне, вырашылі адпомсціць былому ўладару.

З чыноўніцкіх апісанняў вынікае, што паўстанцы паводзілі сябе, як звычайныя разбойнікі. Але толькі такімі спосабамі яны маглі здабыць зброю, харчаванне, грошы і каштоўную інфармацыю. Пры гэтым паўстанцы так дзейнічалі менавіта ў адносінах да праціўнікаў паўстання. А тых, хто спачуваў ці падтрымліваў паўстанцаў, яны нават баранілі ад мясцовых уладаў. Гэтае сцвярджэнне можна падмацаваць інфармацыяй з разглядаемага архіўнага дакумента. Так, 4 ліпеня 1863 г. атрад колькасцю каля 30 чалавек прыйшоў у валаснае праўленне Луненскай воласці і напаў на старшыню Івана Манішку, бо той загадаў арыштаваць селяніна Івана Алізара, які заклікаў сялян да невыконвання загадаў мясцовых уладаў. Старшыню збілі і павезлі ў невядомым накірунку [1, арк. 62].

Такім чынам, на падставе інфармацыі са «Справы аб мяцежніках Гродзенскай губерні» можна зрабіць выснову аб партызанскім характары барацьбы паўстанцаў на тэрыторыі Гродзенскай губерні. Нельга адназначна ацэньваць дзеянні паўстанцаў, лічыць іх добрымі ці дрэннымі. Гэта была сапраўдная грамадзянская вайна, у якой кожны з бакоў дзейнічаў у залежнасці ад сваіх магчымасцяў. Трэба ўлічваць і той факт, што многія ўдзельнікі паўстання маглі няправільна зразумець, да чаго заклікала «Мужыцкая праўда». Паўстанцкія атрады Гродзеншчыны не былі выключэннем. «Дзяры з нас, цар, дзярэце з нас, чыноўнікі яго, хаця да астатняй шкуры, але памятайце, што і на нас прыйдзе пара, памятайце, што калі мужык разгуляецца, то, як свет шырокі, кроў ваша пальецца!!!» [2]. Наўрад ці неадукаваны цёмны селянін у далёкім 1863 г. мог зразумець, што трэба ваяваць за стварэнне сваёй незалежнай дзяржавы, ён разумеў заклік газеты

па-свойму, што трэба скарыстацца сітуацыяй і адпомсціць памешчыкам ці мясцовым уладам за здзекі.

On the basis of archival materials describes the actions of rebel groups in Grodno province in the period from March to July 1863. The conclusion about the partisan nature of the struggle.

## *Спіс крыніц і літаратуры*

1. НГАБ у Гродне. – Ф. 3. – Воп. 1. – Адз. зах. 15 «Дело о мятежниках Гродненской губернии».
2. Мужыцкая праўда. Лісты з-пад шыбеніцы [Электронны рэсурс] // Рэжым доступу: http://www.bielarus.net/archives/2005/02/04/166.

*Навуковы кіраўнік* – **І.В. Соркіна***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.*

УДК 94(476) “1801-1900” : 82-94 (=411:112.28)

*Я.В. Карпенкіна*
*(Мінск, БДУ)*

# БЕЛАРУСКІЯ ГАРАДЫ І МЯСТЭЧКІ XIX СТ. У АДЛЮСТРАВАННІ ЯЎРЭЙСКАЙ МЕМУАРЫСТЫКІ

В статье автор анализирует еврейскую мемуаристику с точки зрения ее полезности для изучения истории белорусских городов и местечек XIX в. Для рассмотрения были взяты воспоминания, написанные авторами-евреями, жившими на Беларуси в XIX–первой половине XX вв. Пытаясь выяснить, при изучении каких аспектов городской жизни мемуары будут более полезны и информативны, а в каких менее, автор приходит к выводу, что евреи создали на Беларуси целый пласт городской культуры, который должен изучаться исторической урбанистикой не в меньшей степени, чем городская культура других народов, проживавших (и живущих до сих пор) на Беларуси.

Здаецца, агульнавядома, што ў гарадах і мястэчках так званай «рысы аселасці», у якую цалкам уваходзілі цяперашнія беларускія землі, на працягу XIX ст. няспынна ішоў працэс павелічэння колькасці яўрэяў-жыхароў. Гэта было абумоўлена ўрадавай палітыкай у вырашэнні «яўрэйскага пытання». Дзякуючы ўрадавым мерам, да канца вызначанага стагоддзя колькасць яўрэяў у мястэчках і гарадах гэтай часткі Расійскай імперыі ў адсоткавым вымярэнні даходзіла, а часам і пераўзыходзіла 50 %. Так, згодна з першым перапісам насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г., у Гародні яўрэі складалі 48 % ад агульнай колькасці гараджан, у Магілёве – 50 %, у Мінску і  Віцебску – 52 %, у Гомелі – 55 %, у Брэсце – 65 %, у Пінску – 74 %, у Слуцку – 77 % [1, с. 60]. Пры гэтым нельга забываць, што яўрэйскае насельніцтва наогул вельмі цяжка паддавалася статыстычнаму падліку па наступных прычынах: а) высокая ступень міграцыі ашкеназаў; б) імкненне пазбегнуць абкладання падаткамі. Таму любыя статыстычныя дадзеныя адносна яўрэйства могуць быць успрыняты выключна як прыблізныя (часцей за ўсё за-

ніжаныя). Але пры гэтым факт наяўнасці значнай колькасці юдэйскага элемента ў беларускіх гарадах і мятэчках у XIX ст. мы адвергнуць не можам.

У XIX ст. яўрэі жылі ў беларускіх гарадах, функцыянавалі ў іх эканоміцы, грамадскіх з'явах, культурным жыцці, разам з беларусамі ствараючы гарадскую гісторыю і робячы гэтыя населеныя пункты такімі, якімі мы іх памятаем па тагачасных фотаздымках, а таксама такімі, якімі мы іх можам бачыць цяпер. Гэта наступства той самай шматэтнічнасці, аб якой сёння можна пачытаць нават у школьных падручніках. Пры гэтым яўрэі, як вядома, у XIX ст. пакуль яшчэ імкнуліся трымацца адасоблена ад прадстаўнікоў іншых народаў (беларусаў, палякаў, рускіх, татар і інш.). Адпаведна, у іх асяродку ўзнікала свая гарадская культура, сваё бачанне роднага горада, свае легенды аб ім. Гэтая гістарычная спадчына таксама з'яўляецца часткай прадмета вывучэння гістарычнай урбаністыкі. Пры гэтым, зробім рэмарку, маладаследаванай часткай!

У якіх гістарычных крыніцах можам мы знайсці сведчанні аб паўсядзённым жыцці ашкеназаў у мястэчках і гарадах Беларусі? Безумоўна, крыніцы могуць быць самымі разнастайнымі: ад судовых справаздач да эпісталярных крыніц. Але, на нашу думку, адной з самых багатых і цікавых у дадзеным выпадку з'яўляецца група крыніц асабістага паходжання, прадстаўленая яўрэйскімі мемуарамі.

Яўрэйская мемуарыстыка як літаратурны жанр (і аднačасова як асобная група гістарычных крыніц) фарміруецца даволі позна – у канцы XIX–пачатку XX стст. Яна мае шэраг асаблівасцяў, на якія неабходна звяртаць увагу даследчыкам, такія як шматмоўнасць, фарміраванне ў пэўным коле яўрэйскага грамадства і г.д. Мемуары аўтараў-яўрэяў, напісаныя пераважна ў пачатку XX ст., даюць нам багатую панараму жыцця беларускага краю ў XIX і пачатку XX стст. У іх мы знаходзім сведчанні аб этнаканфесійным становішчы на Беларусі, эканамічнай развітасці дадзенага рэгіёну ў тыя часы, агульным узроўні жыцця насельніцтва, агульнагістарычных

падзеях (паўстанні 1863–1864 гг., руска-турэцкай вайне, сацыялістычных і сіяніcцкіх рухах...) і г.д. У дадзеным артыкуле мы паспрабуем адказаць на пытанні: 1) якія рысы жыцця тагачаснага беларускага горада/мястэчка адкрывае перад намі яўрэйская мемуарыстыка; 2) у вывучэнні якіх аспектаў жыцця беларускага горада/мястэчка мемуарныя крыніцы яўрэйскага паходжання з'яўляюцца малаінфарматыўнымі?

Калі мы маем справу з вялікага памеру ўспамінамі: не тымі, якія публікаваліся на некалькіх старонках у чарговым нумары «Еврейской старины», а з тымі, якія выходзілі асобнымі кнігамі, то ў такіх буйных мемуарных творах аўтар пачынае свой аповед менавіта са свайго роднага горада (мястэчка), дзе ён нарадзіўся. Часам апісанню роднай старонкі прысвячаецца нават уся першая глава (прыклад – мемуары Е. Коціка [2], А. Паперны [3], С. Дубнова [4]).

Звычайна калі мемуарыст апісвае свой родны горад, які ён добра ведае, то пачынае ён расказ з якога-небудзь вартага ўвагі мясцовага архітэктурнага помніка ці выдатнай прыроднай мясціны. Напрыклад, Е. Коцік пачынае мемуары з апісання Камянецкай вежы і яе гісторыі, а А. Паперна – з Капыльскага высокага халма-гарадзішча. Пры гэтым аўтары не мінуюць прыгадаць легенды, якія бытавалі ў яўрэйскай грамадзе і былі звязаны з гэтым выбітным месцам. Працытуем узгаданага Е. Коціка: «Местечко Каменец, где я родился, знаменито своей старинной исторической башней. Откуда она взялась, неизвестно. Полагают, что это остаток былой крепости (...). Еще во времена моего деда находили ядра весом фунтов в десять (...). Кладка этой башни такая крепкая, что нельзя отколоть ни кусочка. В Каменце говорят, что ее делали на яичном белке, поэтому она такая прочная» [2, с. 35]. У сваіх успамінах «Из Николаевской эпохи» А. Паперна дае апісанне як знешняга выгляду, так і легендарнай гісторыі аднаго з самых цікавых, на думку мемуарыста, месцаў Капыля – высокага халма-гарадзішча, якое Паперна называе «гора Schloss» (Замкавая гара. – *Я.К.*) [3, с. 31]. А вось якую легенду прыгадвае С. Гінзбург у сувязі з апі-

саннем роднага Мінска і яго ракі Свіслачы: «…не проходило и года без того, чтобы несколько человек не погибли в Свислочи (в ней имеются довольно глубокие места). Евреи объясняли это тем, что знаменитый талмудист (…) Арье Лейб бен Ашер, изгнанный в 1742 г. за независимость суждений из Минска (…), изрек в адрес жестоко оскорбившей его общины проклятие, чтобы река Свислочь ежегодно поглощала определенное число людей из ее среды. Называли в точности это количество, но я его позабыл» [5]. Такім чынам, дзякуючы падобным звесткам, мы можам не толькі вызначыць стан прыгадваемых гістарычных аб'ектаў у XIX ст., якія існуюць і зараз, але і даведацца аб гарадскіх (местачковых) яўрэйскіх легендах і міфах, што бытавалі ў тыя часы.

Напэўна, ні адзін мемуарыст-яўрэй не мінае пытання этнаканфесійных стасункаў, што бытавалі ў яго часы. І гэта не дзіва – юдэяў, якія жылі ў іншаканфесійным асяроддзі, хвалявалі іх стасункі з іншымі канфесіямі, найперш з хрысціянамі. Але зараз нас цікавіць не столькі характар гэтых стасункаў, колькі прафесійная спецыялізацыя розных канфесій і этнасаў горада, а таксама іх лакалізацыя ў гарадской прасторы.

Што датычыцца прафесійнай спецыялізацыі, то ў цэлым мемуарысты пацвярджаюць агульнавядомае: яўрэі спецыялізаваліся на рамястве, гандлі і іншых відах прадпрымальніцтва, беларусы – на сельскагаспадарчай вытворчасці (часам таксама зараблялі грошы, працуючы ў яўрэяў [3, с. 33]), рускія былі пераважна ці духавенствам, ці чыноўніцтвам, а татары – выдатнымі агароднікамі (А. Паперна [3, с. 33], С. Дубноў [4, с. 30], С. Гінзбург [5]). Для прыкладу прывядзем цытату з успамінаў С. Гінзбурга: «Различны были и занятия отдельных вероисповедательных групп населения Минска. Православные (…) служили по разным ведомствам. Мещане – частью русские, частью же поляки, (…) занимались огородничеством, а то и земледелием. Ремесленники почти все были евреи…» [5]. Цікава, што ў катэгорыю мяшчан у аўтара трапляюць толькі палякі (пад якімі мы можам

разумець і беларусаў) і праваслаўныя (ізноў-такі ўключаючы беларусаў), а яўрэі не ўваходзяць. Гэта можа ўказваць на яўрэйскую свядомасць, якая адасобіла аднаверцаў ад іншых гарадскіх груп насельніцтва.

Як размяшчаліся этнасы ў межах горада альбо мястэчка? Большасць аўтараў сцвярджаюць аб лакалізацыі яўрэяў у цэнтры мястэчка, а хрысціян – на ўскраінах. Вось што піша на гэты конт А. Паперна: «Расселялись упомянутые группы населения отдельно одна от другой: христиане и магометане – в боковых улицах по уступам горы и под горой, евреи же занимали самую лучшую часть города на вершинах горы, где находилась базарная площадь (...). Ввиду такого видного места, занимаемого евреями, а также вследствие их сравнительной многочисленности (...) Копыль на первый взгляд производил впечатление чисто еврейского города» [3, с. 33]. С.М. Дубноў адзначае, што ў цэнтры яго роднага мястэчка Мсціслаўль жылі таксама і заможныя хрысціяне: «В центре города (...) жили зажиточные еврейские купцы и русские чиновники, помещались лучшие лавки, церкви и некоторые синагоги» [4, с. 30]. Е. Коцік адзначае, што ў Камянцы «гои (...) жили в двух разных концах города» [2, с. 68], як бачым, ізноў-такі па ўскраінах. Наступнай цытатай мемуарыста С. Цэтліна мы можам пацвердзіць, што такі падзел горада быў вельмі распаўсюджаны на беларускіх землях. Вось што піша Цэтлін: «Христианское население местечка Шклов, как, вероятно, и в других местечках, населенных евреями, занимало особый квартал на окраине» [6]. На нашу думку, такое размяшчэнне яўрэяў і хрысціян абумоўлена іх вытворчай спецыялізацыяй – цэнтр горада, дзе размяшчалася рыначная плошча, быў зручным месцам для гандлю, на ўскраінах жа была прастора для заняткаў земляробствам.

Яўрэі вядомыя тым, што гэты народ здаўна вельмі пільна адносіўся да аховы здароўя. Гэта абумоўлена традыцыямі юдаізму (можна ўзгадаць рытуальныя амавенні ў мікве). Таму не выпадкова, што тэма ўзроўню санітарыі і аховы здароўя ў тым ці іншым горадзе ці мястэчку атрымала шырокае

распаўсюджанне ў мемуарных творах аўтараў-яўрэяў. Мемуарысты неаднаразова заўважаюць, што ў гарадах і мястэчках тых часоў назіралася антысанітарыя, не вытрымліваліся і не маглі вытрымлівацца нормы гігіены. Гэта было абумоўлена маладасведчанасцю людзей у галіне гігіены. Е. Коцік, распавядаючы, што адным з разносчыкаў хваробаў у Камянцы была маленькая брудная рэчка, куды сцякаліся амыўкі з местачковай лазні, якая стаяла побач, з іроніяй зазначае: «Но кто в те времена мог думать, что от такой вещи может произойти болезнь? Было известно, что болезнь – от Бога, а заплесневевшая лужа – это лужа» [2, с. 71]. П. Венгерава піша, што насельніцтва не верыла ў існаванне мікробаў, а таксама што ўзровень свядомасці ў галіне гігіены ад часоў яе маладосці (сярэдзіна XIX ст.) да часоў яе старасці (пачатак XX ст.) не нашмат павялічыўся [7, с. 239].

Улічваючы вышэйсказанае, не дзіўна, што ўсялякага роду эпідэміі былі ў тыя часы «частымі гасцямі» ў мястэчках і гарадах Беларусі. Е. Коцік сцвярджае, што эпідэміі сярод маленькіх дзяцей здараліся штогод [2, с. 70]. Таксама ў яўрэйскіх успамінах занатоўваюцца неаднаразовыя выпадкі эпідэміі халеры (Е. Коцік [2, с. 248–250], А. Паперна [3, с. 32], П. Венгерава [7, с. 239]). У мястэчку часта быў толькі адзін лекар ці фельчар. Доктар звычайна прыязджаў з бліжэйшых гарадоў па выкліках («…посылали в Несвиж за знаменитым врачом Кушелевским (…), решались обыкновенно на приглашение слишком поздно (…). Кушелевский поэтому обыкновенно приезжал в Копыль, когда пациент был уже надлежащим образом оплакан, отпет и похоронен» [3, с. 59]). Азначаны медыцынскі персанал па паходжанні быў яўрэйскім, але да іх звярталіся і хрысціяне, атрымоўваючы дапамогу ў той жа меры, як і юдэі. Падобныя выпадкі прыгадваюцца мемуарыстамі неаднаразова (Е. Коцік [2, с. 69], А. Паперна [3, с. 60]), што ўказвае на распаўсюджанасць такіх практык.

Што тычыцца развітасці сферы адукацыі ў гарадах і мястэчках Беларусі, то тут яўрэйскія мемуары таксама даюць нам пэўную інфармацыю. Аднак інфармацыя гэтая тычыцца выключна яўрэйскіх школ. Мемуарысты, як правіла, не

закранаюць хрысціянскіх прыходскіх школ ці закраняюць іх мелькам, кажучы толькі аб іх наяўнасці/адсутнасці, як А. Паперна ў сваіх успамінах: «Просветительные учереждения, в современном смысле этих слов (аўтар мае на ўвазе свецкую адукацыю. – *Я.К.*), блистали своим отсутствием. Никакой казенной или общественной школы светского характера в Копыле не было. Христианское население было поголовно безграмотное» [3, с. 56]. Аднак калі аўтар вучыўся ў гімназіі ці ў павятовай школе, то верагоднасць сустрэць у яго мемуарах звесткі аб гэтых навучальных установах узрастае. Тым не менш, будзем казаць, што мемуарысты пераважна канцэнтравалі ўвагу на яўрэйскай традыцыйнай сістэме адукацыі (хэдэры, Талмуд-Торы, ешыботы).

Што тычыцца месцаў адпачынку, то ў яўрэйскіх мемуарах мы сустракаем звесткі аб іх даволі рэдка. Баўленне вольнага часу яўрэяў звычайна праходзіла на юдэйскія рэлігійныя святы ў сінагозе. Толькі мемуарысты-выхадцы з заможных сем’яў могуць нам распавесці, і тое няшмат, пра падрабязнасці пазарэлігійнага баўлення вольнага часу. Вось што піша ў сваіх успамінах С.М. Гінзбург, прыгадваючы жыццё яго сям’і ў Мінску: «Развлечения были очень редки. Театральное здание в городе хотя и имелось, но спектаклей в нем почти никогда не бывало в ранние годы моего детства», «…удовольствие нам доставлял небольшой кукольный театр («батлейка»), с которым на Рождество семинаристы ходили по городу» [5].

Разгледзім і апісанне знешняга вобліку горада ў яўрэйскай мемуарыстыцы. Знешняя характарыстыка таго ці іншага горада рысы аселасці вельмі часта залежала ад грамадскіх і рэлігійных поглядаў мемуарыста. Прывядзем апісанне Гародні. Мы маем 2 мемуарныя творы, у якіх прыгадваецца «знешнасць» гэтага горада. Першы, напісаны Е. Коцікам, яўрэем-«патрыётам» местачковага жыцця і «прыхільнікам» ідышскай культуры, які і стварае свае мемуары, каб перадаць нашчадкам унікальнасць і цудоўнасць габрэйскага жыцця ў XIX ст. Другі мемуарыст – А.Г. Коўнер – асіміляваны яўрэй, прыхільнік рэфармавання старой ідышскай местач-

ковай культуры, нястомны крытык яе рэлігійнага фанатызму, а таксама іншых перажыткаў і заганаў. Е. Коцік апісвае Гародню наступным чынам: «…меня ждет Гродно, город Просвещения, с книгами и яркими людьми», «Император Александр Второй каждый год приезжал в Гродно на смотр. Гродненская площадь привлекала его своей величиной и красивым расположением на ней войска» [8]. А.Г. Коўнер дае наступнае апісанне Гародні: «Гродно как один из главных центров северо-западного еврейства, поразил меня своей бедностью, скученностью и жалкой своей торговлей» [9, с. 244]. Такім чынам, пры ўліку ўражанняў мемуарыста і апісанняў ім агульнага характара горада/мястэчка неабходна ўлічваць і грамадскія погляды аўтара. Што тычыцца, так бы мовіць, больш канкрэтнага апісання населенага пункта (планіроўка, забудоўля і г.д.), яўрэйскія мемуарныя творы тут могуць быць карыснымі крыніцамі. Напрыклад, успаміны А. Паперны, у якіх аўтар апісвае размяшчэнне і знешні выгляд юдэйскіх духоўных установаў у Капылі [3, с. 34], яўрэйскіх грамадскіх бібліятэк [3, с. 43], лазняў [3, с. 46]. Унікальнымі з'яўляюцца звесткі, якія дае П. Венгерава ў сваім творы аб высяленні старой часткі Брэста ў сувязі з будаўніцтвам Брэсцкай крэпасці [7, с. 119–127].

Такім чынам, яўрэйская мемуарыстыка з'яўляецца карыснай крыніцай пры даследаванні беларускіх гарадоў і мястэчак. У гэтых гістарычных крыніцах мы можам знайсці цікавыя звесткі аб архітэктурным вобліку населеных пунктаў у XIX ст., аб узроўні санітарыі і ступені развітасці медыцынскай дапамогі, аб размяшчэнні ў гарадской прасторы хрысціянскага і юдэйскага насельніцтва горада, а таксама аб іх спецыялізацыі, бытаванні ў яўрэйскім асяродку міфаў і легенд, звязаных з беларускім горадам/мястэчкам. Значна менш звестак ва ўспамінах аўтараў-яўрэяў мы знаходзім аб хрысціянскіх ці свецкіх навучальных установах, аб месцах масавага адпачынку гараджан. Гэта, як зазначалася вышэй, было абумоўлена рэлігіяй: у XIX ст. у яўрэйскім грамадстве пераважала традыцыйная юдэйская адукацыя; вольны ж час яўрэі праводзілі ў сінагогах ці бэйт-мідрашах, не сустра-

каючыся з хрысціянамі ў гарадскіх тэатрах ці парках, як гэта будзе пазней, у XX ст.

На жаль, большасць гісторыкаў апускаюць тэму яўрэйскасці беларускіх гарадоў і мястэчак. А дарма! Бо акцэнтуючы ўвагу не толькі на беларускіх гарадах як асяродках беларускай культуры, але і, напрыклад, як асяродках яўрэйскай культуры (татарскай, польскай…), мы робім нашу гісторыю больш разнастайнай і багатай.

In this article, the author examines the Jewish memoirs as a historical source that can be used in the study of the history of Byelorussian cities. Treated 8 memoirs (the authors of these memoirs in life were associated with Belarus).The author has analyzed these memoirs as a historical source. This allows us to see the Jewish world in Byelorussian cities and Jewish urban culture there in XIX – early XX centuries. On author`s opinion, information about Byelorussian cities, which we can find in the Jewish memoirs, help us to grasp history of our cities in XIX – early XX centuries as more rich and more diverse historical phenomenon.

## *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Иоффе, И. Страницы истории евреев Беларуси: краткий научно-популярный очерк. – Минск, 1997. – С. 292.
2. Котик, Е. Мои воспоминания / Е. Котик. – СПб., 2009. – С. 359.
3. Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи / А.И. Паперна // Евреи в России, XIX век. – М., 2000. – С. 29–176.
4. Дубнов, С.М. Книга моей жизни. Воспоминания и размышления. Материалы по истории моего времени / С.М. Дубнов. – СПб., 1998. – С. 647.
5. Гинзбург, С. Из давнего прошлого. Отрывки из книги / С. Гинзбург // [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://mishpoha.org. – Дата доступа: 15.02.2012.
6. Цетлин, С. Из дневника / С. Цетлин // [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://mishpoha.org. –Дата доступа: 16.09.2012.
7. Венгерова, П. Воспоминания бабушки. Очерки культуры и истории евреев России в XIX веке / П. Венгерова. – М., 2003. – С. 344.
8. Котик, Е. Мои воспоминания. Т. 2 / Е. Котик. – Режим доступа: http://www.jewniverse.ru/RED/Ulanovskaya_Kotik/index.htm. – Дата доступа: 10.09.2012.
9. Ковнер, А.Г. Из записок еврея / А.Г. Ковнер // Евреи в России, XIX век. – М., 2000. – С. 177–246.

*Навуковы кіраўнік –* **В.А. Цяплова,** *кандыдат гістарычных навук, дацэнт.*

УДК 347.9 (438) (091)

*М.Н. Сахарчук*
*(Брест, БрГУ имени А.С. Пушкина)*

# РОЛЬ СУДЬИ В СТАНОВЛЕНИИ ПОЛЬСКОЙ СУДЕБНОЙ СИСТЕМЫ В ПОЛЕССКОМ ВОЕВОДСТВЕ (1919–1939 гг.)

В статье рассматривается создание органов судебной власти в Польше межвоенного периода. Эффективно действующая судебно-правовая система должна была символизировать становление гражданской администрации и укрепление доверия населения к польским властям, что осложнялось сложной военно-политической и социально-экономической ситуацией в регионе, необходимостью унификации судебного законодательства и нехваткой судейских кадров. Обязательная проверка на лояльность новой власти и «польскость» ставила судью в зависимость от исполнительной власти, что, естественно, не могло не сказаться на независимости судопроизводства. В процессе становления нового польского государства происходила этническая чистка судебного корпуса в духе политики полонизации.

Польша обрела независимость осенью 1918 г. Молодое государство столкнулось с необходимостью решения множества задач, среди которых выделялись проблемы определения государственных границ и создания эффективно действующих органов власти в стране. Польские власти рассматривали этнические белорусские, украинские и литовские земли как неотъемлемую часть бывшей Речи Посполитой и стремились присоединить эти территории к Польше. В результате советско-польской войны 1919–1921 гг., окончившейся подписанием 18 марта 1921 г. Рижского мирного договора, территории Западной Беларуси и Западной Украины были включены в состав Польши [1, с. 70–79; 4, с. 290–306].

Важная роль в стабилизации ситуации на только что присоединенных территориях отводилась созданию и функционированию судебно-правовой системы, которая должна была символизировать становление гражданской администрации и укрепление доверия населения к польским властям.

Однако в процессе организации судопроизводства на территориях, присоединенных в результате подписания Рижского мирного договора, польским властям пришлось столкнуться с множеством трудностей: сложной военно-политической и социально-экономической ситуацией в регионе, необходимостью унификации судебного законодательства и, главное, нехваткой судейских кадров.

Началом официальной организации судопроизводства на территории Западной Беларуси следует считать распоряжение Генерального комиссара Восточных земель «Об организации общего судоустройства на территориях, занятых польскими войсками» от 15 мая 1919 г., согласно которому организовывались мировые суды, окружные суды и апелляционный суд в Варшаве (с 26 сентября 1919 г. в Вильно) [15]. Организацию судебной системы в рамках существования Комиссариата Восточных земель (1919–1920 гг.) следует отнести к переходному этапу в становлении польской администрации в регионе [12, с. 67–100].

Военные действия и активное партизанское движение обусловили тот факт, что организация судопроизводства осуществлялась в чрезвычайных условиях [4, с. 354–358; 6]. В регионе действовали как военные суды при польских армиях, деятельность которых часто распространялась и на гражданское население, так и военно-полевые суды, которые хотя и организовывались уже в рамках гражданской администрации, однако относились к чрезвычайному судопроизводству с ускоренной процедурой следствия и суда [13]. Следует также отметить, что административные власти (окружные комиссары, поветовые старосты и др.) в период военных действий были наделены значительными полномочиями и нередко вмешивались в деятельность судей (были случаи вмешательства в судебный процесс и отмены приговоров мировых судей) [5; 6; 9; 16, с. 47–54]. Естественно, что нарушение принципов судейской независимости не могло способствовать организации эффективно действующей судебной системы.

После подписания Рижского мирного договора политика польских властей по организации гражданской администрации в регионе претерпела значительные изменения. Закон от 4 февраля 1921 г. закрепил новое политико-правовое положение на землях, отошедших к Польше, и был направлен на ликвидацию их «особого статуса». На территорию Полесского, Новогрудского и Волынского воеводств распространялись законодательные акты, действовавшие на других территориях Польши. Начался интенсивный процесс унификации и полонизации законодательства, в том числе в области судопроизводства [5; 14].

Согласно распоряжению министра внутренних дел от 5 ноября 1920 г., организовывался Пинский окружной суд (начал деятельность с 11 января 1921 г.). Юрисдикция окружного суда распространялась на территорию Брестского, Кобринского, Лунинецкого, Столинского, Дрогичинского поветов. Первоначальный состав суда включал председателя суда, его заместителя, 6 окружных, 7 следственных и 21 мирового судей [7].

Основной проблемой польских властей при организации судебной системы как на территории непосредственно Польши, так и на территории Западной Беларуси (Полесское, Новогрудское, некоторые поветы Виленского, и Белостокского воеводств) являлась нехватка судебных кадров. На «Восточных Кресах» эта проблема осложнялась и тем обстоятельством, что в Российской империи полякам было запрещено занимать должности судей. Лица польской национальности допускались на работу только в адвокатуру. Именно адвокатура начала поставлять кадры для польских судов, однако их количество было недостаточным для организации полноценно действующей судебной системы [5].

В связи с этим политика польских властей была направлена на пополнение судейского корпуса в регионе. Польские власти стремились привлечь на территорию «Восточных земель» судебных работников непосредственно с территории Польши. Заработная плата судей на «Кресах» была в 3–4 раза

Цікавым з'яўляецца артыкул С.В. Марозавай «Гісторыка-краязнаўчы гурток: шлях даўжынёй у 50 гадоў», які быў апублікаваны ў зборніку матэрыялаў рэспубліканскай навуковай канферэнцыі «Здзяйсненне мары апантаных» [4, с. 6–11]. Шмат увагі аўтар надае асноўным напрамкам дзейнасці гуртка, а таксама яго выпускнікам, бо менавіта яны ствараюць яго гонар.

Важнымі з'яўляюцца матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Падрыхтоўка педагагічных і навуковых кадраў гісторыкаў і развіццё гістарычнай навукі ў Беларусі» [5], прысвечанай 50-годдзю факультэта гісторыі і сацыялогіі Установы адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы». Удзельнікі гэтай канферэнцыі разглядзелі пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай педагагічных і навуковых кадраў гісторыкаў і развіццём гістарычнай навукі. У зборніку матэрыялаў утрымліваецца матэрыял аб гісторыі стварэння і развіцця гістарычнага факультэта, яго кафедр, навуковых інтарэсах выкладчыкаў і студэнтаў, дзейнасці гісторыка-краязнаўчага гуртка, які працаваў і працуе пры кафедры гісторыі Беларусі, традыцыях факультэта і інш.

У зборніку матэрыялаў Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі» змешчаны артыкул І.П. Крэня «Даследаванні па гісторыі гарадоў на кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы» [6, с. 449–456], у якім абагульнены даследаванні гісторыі гарадоў і мястэчак Беларусі з старажытных часоў да нашых дзён супрацоўнікамі кафедры гісторыі Беларусі.

Доктарскія і кандыдацкія дысертацыі па гістарычных навуках, якія былі падрыхтаваны і абаронены ў вышэйшых навучальных і навуковых установах Рэспублікі Беларусь, у тым ліку і ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы, пералічаны ў працах У.М. Міхнюка [7] і Г.У. Карзенкі [8]. У іх ёсць звесткі пра доктарскія і кандыдацкія дысертацыі і выкладчыкаў кафедры гісторыі Беларусі.

Эфектыўнасць дзейнасці сістэмы па падрыхтоўцы спецыялістаў-гісторыкаў, у тым ліку высокваліфікаваных, залежыць і ад прафесарска-выкладчыцкага складу, ад узроўню навукова-тэарэтычнай і метадычнай падрыхтоўкі выкладчыкаў. Факультэт гісторыі і сацыялогіі і яго кафедры, у тым ліку кафедра гісторыі Беларусі, заўсёды валодалі кадравым патэнцыялам, які дазваляў ім рыхтаваць высокакваліфікаваных спецыялістаў. Інфармацыю аб жыцці і творчай дзейнасці, навуковых інтарэсах, асноўных публікацыях выкладчыкаў кафедры можна знайсці ў даведніках «Выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы» [9], «Историки Беларуси в начале XXI ст.» [10], «Постаці ў гісторыі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы» [11], «Университет и его педагоги» [12].

Важнай крыніцай па разглядаемай тэме з'яўляецца перыядычны друк. Артыкулы па некаторых аспектах развіцця кафедры гісторыі Беларусі можна знайсці ў такіх часопісах і газетах, як «Веснік ГрДУ імя Янкі Купалы», «Беларускі гістарычны часопіс», «Вышэйшая школа», «Гродзенская праўда», «Гродзенскі ўніверсітэт» і інш. Так, у «Беларускім гістарычным часопісе» быў надрукаваны артыкул, прысвечаны таленавітаму вучонаму і педагогу, прафесару І.П. Крэню [13, с. 40–43].

Шмат артыкулаў напісана аб дзейнасці гісторыка-краязнаўчага гуртка і яго кіраўніку Я.Н. Марашу. Гісторыка-краязнаўчы гурток, які працуе пры кафедры гісторыі Беларусі, з'яўляецца складальнай часткай факультэта гісторыі і сацыялогіі, яго «візітнай карткай». Трэба таксама адзначыць артыкул С.В. Марозавай «Гісторыка-канфесійныя даследаванні на кафедры гісторыі Беларусі ГрДУ імя Янкі Купалы» [14, с. 8–12].

Заснавальніку гістарычнай школы Я.Н. Марашу таксама прысвечаны артыкул «Успомнілі Якава Мараша» Ж. Янчароўскай, які быў апублікаваны ў «Гродзенскай праўдзе» [15, с. 3]. Аповед у ім ідзе і пра пасяджэнні «круглага

стала», якія ладзіліся на гістарычным факультэце. У працы гуртка прымалі ўдзел не толькі вучоныя і студэнты, але і супрацоўнікі архіваў, вучні і педагогі школ горада г. Гродна.

Звесткі пра выкладчыкаў кафедры гісторыі Беларусі можна знайсці і ў энцыклапедычных выданнях. Напрыклад, у 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі», 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» і інш. [16].

Верагодна, асноўная маса дакументаў аб дзейнасці кафедры гісторыі Беларусі знаходзіцца ў Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобласці (матэрыялы з 1981 па 1995 г.) і архіве Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Менавіта тут захоўваюцца дакументы, якія паступалі са структурных падраздзяленняў гістарычнага факультэта, у тым ліку кафедры гісторыі Беларусі. Гэта загады і пастановы вышэйстаячых органаў, якія тычацца дзейнасці ўніверсітэта; загады рэктара па асноўнай дзейнасці (звесткі аб стварэнні, перайменаванні, рэарганізацыі і ліквідацыі факультэтаў і кафедр), справаздачы аб працы факультэта і яго кафедраў, матэрыялы пасяджэнняў кафедр і Савета факультэта, пратаколы дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі, статыстычныя справаздачы аб руху кантынгента студэнтаў, аб дзейнасці аспірантуры.

У справах кафедры фарміруюцца планы, пратаколы пасяджэнняў кафедры, справаздачы. Напрыклад, у справе кафедры гісторыі Беларусі за 1993–1994 навучальны год у плане адлюстраваны задачы кафедры ў навучальным годзе, пытанні аб кадрах, гадавых навучальных нагрузках выкладчыкаў, павышэнні кваліфікацыі, пытанні работы з аспірантамі і спашукальнікамі, дзейнасці студэнцкага навуковага гісторыка-краязнаўчага гуртка, навукова-даследчая работы студэнтаў, дыпломныя праектаванні.

У плане навукова-даследчай працы кафедры прыведзены асноўныя напрамкі дзейнасці ў 1994 г.: падрыхтоўка гісторыка-дакументальных хронік «Памяць» па гарадах і раёнах Гродзенскай вобласці, даследаванне гарадоў і мястэчак Беларусі (Гродзенская вобласць), гісторыя рэлігіі і

царквы на Беларусі, «Наш край – Гродзеншчына: гісторыя, эканоміка, культура», арганізацыя і правядзенне навуковых канферэнцый і інш.

Да пратаколаў пасяджэнняў кафедры дадаюцца справаздачы выкладчыкаў аб навучальным працэсе і навукова-даследчай рабоце, характарыстыкі-парады выкладчыкаў, праграма музейна-экскурсійнай практыкі студэнтаў 2 курса факультэта гісторыі і сацыялогіі і справаздача аб гэтай працы. У справе сфарміраваны справаздачы аб навуковай рабоце кафедры за 1993 г., навучальна-выхаваўчай рабоце за 1993–1994 навучальны год [17].

З архіўных дадзеных мы таксама даведваемся пра дзейнасць кафедры гісторыі Беларусі ў пачатку XXI ст. Асаблівасцю дзейнасці ў гэты перыяд з'яўлялася спалучэнне традыцыйных напрамкаў навуковых даследаванняў з прынцыпова новымі навуковымі тэмамі. Так, новым напрамкам у дзейнасці кафедры з'явілася распрацоўка тэмы «Сацыяльна-эканамічныя, палітычныя і канфесіянальныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі ў 1921–2000 гг.», якая была замацавана за кафедрай і зацверджана Прэзідыумам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі [18].

Такім чынам, аспекты развіцця кафедры гісторыі Беларусі факультэта гісторыі і сацыялогіі ГрДУ імя Янкі Купалы вывучаны недастаткова. Ніхто з навукоўцаў не вылучаў у якасці аб'екта даследавання пытанні дзейнасці кафедры гісторыі Беларусі. Таму вылучаная тэма з'яўляецца актуальнай і патрабуе грунтоўнага даследавання.

The article is devoted to an obscure page Faculty of History - Department of History of Belarus.The author tells about the main sources by which to investigate in depth the creation, establishment and development department of the history of Belarus, the main directions of its educational, methodical and scientific activities. It should be noted that the isolated complex topic was not considered in any work. A number of the material contained in the archives, perydychnym print directories and collections of materials of scientific conferences.

## Спіс крыніц і літаратуры

1. Габрусевіч, С.А. Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы: гістарычны нарыс / С.А. Габрусевіч, І.П. Крэнь. – Гродна: ГрДУ, 2001. – 174 с.
2. Научно-исследовательский кружок и историческое краеведение: материалы VI научно-практической конференции, посвященной 35-летию историко-краеведческого кружка при кафедре истории БССР. – Гродно, 1990. – 270 с.
3. Шлях у навуку: матэрыялы 7-й рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 40-годдзю студэнцкага навукова-краязнаўчага гуртка Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. – Мінск: БелНДІДАС, 1997. – 266 с.
4. Марозава, С.В. Гісторыка-краязнаўчы гурток: шлях даўжынёй у 50 гадоў / С.В. Марозава // Здзяйсненне мары апантаных: матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі. – Гродна, 2006. – С. 6–11.
5. Подготовка педагогических и научных кадров историков и развитие исторической науки в Беларуси: материалы респ. науч.-практ. конф., Гродно, 30 сент. 2004 г., Гродно / под ред. Е.А. Ровбы, А.Н. Нечухрина, И.П. Креня. – Гродно: ГрДУ, 2005. – 401 с.
6. Крэнь, І. Даследаванні па гісторыі гарадоў на кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы / І. Крэнь // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі: зборнік навуковых артыкулаў. – Гродна, 2009. – С. 449–456.
7. Міхнюк, У.М. Доктарскія і кандыдацкія дысертацыі па гістарычных навуках у Рэспубліцы Беларусь (1991–2003 гг.): бібліягр. паказ. / У.М. Міхнюк. – Мінск: НАНБ, 2006. – 68 с.
8. Корзенко, Г.В. Аннотированный указатель диссертаций по историческим наукам, защищенных в Республике Беларусь (1991–2005 гг.) / Г.В. Корзенко, Ю.В. Зенькович. – Минск: Беларуская навука, 2006. – 393 с.
9. Выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы: біябібліяграфічны даведнік / пад рэд. В.М. Чарапіцы. – Гродна, 1999. – 595 с.
10. Корзенко, Г.В. Историки Беларуси в начале XXI столетия: библиографический справочник / Г.В. Корзенко. – Минск: Беларуская навука, 2007. – 470 с.
11. Постаці ў гісторыі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы: гістарычны нарыс. – Гродна, 2005. – 203 с.
12. Университет и педагоги. – Гродно, 2006. – 362 с.
13. Кушнер, В. Грамадскае ён заўсёды ставіць вышэй за асабістае: да 70-

годдзя з дня нараджэння Івана Платонавіча Крэня / В. Кушнер // Беларускі гістарычны часопіс. – 2006. – № 11. – С. 40–43.
14. Марозава, С.В. Гісторыка-канфесійныя даследаванні на кафедры гісторыі Беларусі ГрДУ імя Янкі Купалы / С.В. Марозава // Веснік ГрДУ імя Янкі Купалы. – Серыя 1. – 2009. – № 3. – С. 8–12.
15. Янчароўская, Ж. Успомнілі Якава Мараша / Ж Янчароўская // Гродзенская праўда. – 2007. – 17 лютага. – С. 3.
16. Мараш, Я.Н. // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. – Мінск: БелЭн, 2003. – Т. 5. – С. 73.
17. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. – Ф. 991. – Воп. 5. – Спр. 184: Планы работ, пратаколы пасяджэнняў і справаздачы аб рабоце кафедры гісторыі Беларусі ў 1993–1994 навучальным годзе. – 321 л.
18. Архіў УА «Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы». Справаздача аб навуковай рабоце за 2001 г. кафедры гісторыі Беларусі факультэта гісторыі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. – 51 л.

*Навуковы кіраўнік –* **С.В. Марозава**, *доктар гістарычных навук, прафесар.*

УДК 94(44)(092)

*Т.С. Трахимчик*
*(Гродно, ГрГУ имени Янки Купалы)*

# РОЛЬ ЛИЧНОСТИ В ИСТОРИИ СРЕДИЗЕМНОМОРЬЯ Ф. БРОДЕЛЯ

Ф. Бродель – известный историк XX в. Его труды входят в золотой фонд исторической науки. Среди трудов Ф. Броделя выделяется «Средиземное море и средиземноморский мир в эпоху Филиппа II» в 3-х томах.

В работе Ф. Броделя «Средиземноморье и средиземноморский мир в эпоху Филиппа II» можно проследить отношение автора к роли личности в истории. Исследователь является противником «субъективных» школ в исторической науке, хотя и поддерживает утверждение школы «Анналов», что главное в истории – человек. Вот что пишет автор в своей работе «Средиземноморье...» по этому поводу: «Нужно разделить, по крайней мере, свободу группы и свободу индивида... Свободу каждого из них (исторических персонажей) можно уподобить свободе человека, оказавшегося на маленьком островке или в тюрьме... Поэтому, когда я думаю об индивидууме, мне всегда представляется, что он в очень небольшой степени является кузнецом своей судьбы, будучи элементом ландшафтной среды, встроенным в бесконечную перспективу «большой длительности»... В историческом объяснении... «большое время» всегда одерживает верх. Отсеивая множество всех тех событий, которые не попадают в его струю и безжалостно отвергаются им, оно, безусловно, ограничивает свободу воли человека и даже роль случая» [1, с. 430].

Здесь можно говорить о двух способах видения истории – либо глазами наблюдателя, который фиксирует все, что предстает перед ним, и пытается сделать какие-то обобщения относительно наблюдаемого им движения, либо глаза-

ми участников, принимая во внимание их планы, поступки, эмоции и оценки. Ф. Бродель является решительным сторонником первого подхода, который допустимо сравнить с естественно-научным – не зря количественные аспекты описания прошлого так привлекают его внимание, и не зря он выражает надежду на дальнейшее развитие математических методов исследования общества. Преимущества такого видения истории заключаются, в частности, в оправдании переноса каких-то выводов относительно прошедших событий на настоящее и будущее и, следовательно, в обосновании актуальности исторических наблюдений и их использовании для прогнозирования будущего, а также извлечения из истории уроков [2, с. 66].

В третьей части «Средиземноморья...» содержится ряд колоритных характеристик и сюжетов, сконцентрированных вокруг определенных личностей. В первую очередь, это Филипп II, явно или незримо присутствующий на страницах всей книги, а также его отец, родственники и приближенные: герцог Альба, кардинал Гранвелла, Маргарита Пармская, дон Хуан Австрийский, папы, дипломаты, вельможи, военноначальники, пираты, разбойники, авторы мемуаров, писатели, литературные герои и др. Несмотря на декларации автора, их вклад в историю заметен, велик [1].

Наконец, индивидуальное и живое начало проявляется еще и по-другому – в тенденции, снова сближающей Ф. Броделя с марксизмом, в обращении к коллективным индивидам. Личностью в истории в данном случае является народ, этнический, цивилизационный и социальный субъект, который в силу массивности поступков составляющих его индивидов больше связан с глубинными факторами исторического процесса и одновременно в большей степени способен накладывать на них свой отпечаток. Великие деятели – лишь проводники и выразители воли этого коллективного исторического персонажа [3, с. 35].

Подобным размыванием или переносом на коллектив свободы воли и ответственности объясняется нежелание

Ф. Броделя давать оценки или толковать о Суде истории с большой буквы. К истории, пишет историк, следует подходить «не только с меркой одного человека, индивида, но и множества людей, всех людей». Поставленный во главу угла принцип понимания также достаточно расплывчат и может опираться на совершенно разные способы объяснения и установления причин [4, с. 32].

Понимание, действительно, можно считать самоцелью или одной из целей исторической науки, если исходить из того, что она должна помочь людям одной эпохи, с их взглядом на вещи, привычками и интеллектуальным багажом, понять людей другой эпохи – с их образом жизни и мировосприятием. А для этого и нужно описать этот мир другой эпохи, желательно в его многообразии и изменчивости, т.е. дать возможность читателю взглянуть на историю как с позиций своего времени, так и глазами современника событий. Если предположить, что именно подобный ход мысли заставил Ф. Броделя перейти от дипломатической истории к исследованию контекста, в котором она разворачивалась, то получится, что его главной задачей было изображение предельно расширенного контекста изначально избранного сюжета (о политике Филиппа II). Причем этот, если можно так выразиться, «взбесившийся контекст» заполнил всю работу и вытеснил все прочие сюжетные линии, вытеснил само объясняемое [5].

Противоречие, с которым сталкивается Ф. Бродель, работая над материалом, – это не противоречие между детерминизмом и свободой частных или индивидуальных проявлений, это альтернатива между определенностью или связанностью картины и хаосом. Желая придать материалу возможную степень организации, историк естественным образом опирается на некие принуждающие факторы, причем первыми из них являются пространство и время. И если пространство позволяет человеку вступать в борьбу с собой, изменяя скорость и средства передвижения, то время – гораздо более жесткий противник и в материальном смысле

не оставляет людям никакой свободы: движение направлено в одну сторону и отсчет идет постоянно. Остается некоторая интеллектуальная свобода, и одно из ее проявлений и есть история [3, с. 35–37].

Вот откуда возникли разные этажи в исторической концепции Ф. Броделя и разные действующие лица на этих этажах, каждый из которых обладает своей степенью свободы и индивидуальности. Такой субъект, например, как Средиземное море, может выйти на авансцену истории и сойти с нее, ему воздается должное или адресуются упреки и т.п. Отдельные этажи, или уровни протекания временных процессов – географическое время, уровень «большой истории» и повседневность, существуют в действительности, но не настолько автономно, чтобы устанавливать между ними специальную связь; они как бы вложены друг в друга, и жизнь протекает одновременно во многих плоскостях. А так как в книге Ф. Броделя о Средиземноморье сохранена и более традиционная схема членения истории на экономическую, социальную, цивилизационную и политическую, то в ней встречается и немало повторов, что можно считать ее вынужденным недостатком [6, с. 320].

Такое представление об истории не исключает идеи альтернативности как на уровне индивидуальных субъектов – менее для него интересном, так и на уровне коллективном – народов, стран и континентов. Ф. Бродель задается вопросами, что было бы, если бы Филипп II перенес столицу в Лиссабон или если бы Франция выиграла имперские выборы. И поскольку отдельные индивиды и коллективы выступают в качестве актеров или игроков, изложение ведется часто в терминах игры: как театральной, так и азартной, учитывающей случайную и вероятностную составляющую исхода событий. «Ставки», занимающие Ф. Броделя, чрезвычайно высоки, это тоже ставки большого времени, непосильные для отдельных лиц, – судьбы стран, регионов, даже всего мира. Исход игры решается на глубинном уровне, прежде всего экономическом, что заставляет снова вспомнить о теории

исторического материализма [6, с. 324–326].

Принципы, исповедуемые Ф. Броделем, заставляют его уходить от сюжетности или оставлять ей только вспомогательную роль, что можно считать еще одной издержкой данного стиля. История без сюжета невозможна, она рассыпается, и у Ф. Броделя сюжеты выступают в обличье проблем, которые служат одним из главных связующих компонентов изложения. Тем самым, создавая свое по необходимости дескриптивное полотно, Ф. Бродель отдает должное проблемному подходу к истории, за который ратовал, в частности, Л. Февр. Автор писал, что отдельные индивиды, сколь бы подробно он ими ни занимался в данный момент, являются все-таки вспомогательным материалом строящегося им здания, и, даже высказывая мимоходом какие-то эмоции по поводу драматических поворотов судеб своих героев, историк расстается с ними без сожаления. Глобальные же сюжеты-проблемы у Ф. Броделя достаточно аморфны, он не ищет заключительных выводов и не строит жестких схем [7, с. 55–57].

Историю, которая полностью абстрагируется от эмоций, чувств, оценок и представлений, как коллективных, так и индивидуальных, сегодня писать невозможно. Так что в книге Ф. Броделя о Средиземноморье все это присутствует и при желании без труда обнаруживается. Другое дело, что он намеренно открещивается от такого подхода к истории и объявляет себя сторонником иного, в его понимании, революционного и обеспечивающего новый синтез. Тем не менее Ф. Бродель осознает ограниченность возможностей применения своего структурного подхода, в частности, в сфере интеллектуальной истории: «Представим себе, что историк исследует основные элементы этой достаточно простой и очень распространенной доктрины, начиная с ее реального зарождения в середине XVI в. Сколько разрывов и поворотов, даже внутри самой структуры макиавелизма, встречается здесь на каждом шагу, так как эта система не обладает наглядной и почти неизменной целостностью мифа, она не следует одними проторенными и безопасными путями большой дли-

тельности» [5]. Эту новизну и целостность Ф. Бродель, как и его старшие коллеги, искал в соединении всех областей исторического знания, более того, в выходе за границы отдельных наук с тем, чтобы соединить их результаты под эгидой истории, под углом зрения законов ее движения. При этом он стремится мыслить как можно более масштабно, широко, охватывая взглядом всю панораму «большой истории». Это был взгляд на человека извне, но таково понимание Ф. Броделем исторической истины и путей ее достижения. Этот взгляд не остался односторонним и привел к мысли о бесполезности человеческих усилий изменить предначертанный маршрут. Подспудная идея, воплотившаяся в монографии о Средиземноморье, заключается, по-видимому, в том, чтобы дать людям возможность освободиться от естественных пут, которые привязывают их к «здесь и сейчас», и приобщиться к глубинным, протяженным процессам, выходящим далеко за ограниченные рамки индивидуального существования [4, с. 42–44].

Такой способ общения с историей, не требующий от нас следовать за прогрессом или сильно уповать на будущее, но вместе с тем раскрывающий богатство и значительность в основном уже ушедших в прошлое форм коллективной жизни, вероятно, и сделал труд Ф. Броделя классическим.

The underlying idea is embodied in the monograph on the Mediterranean, is, apparently, is to give people the opportunity to be freed from natural fetters that bind them to the «here and now», and join the deepest, longest of any processes, which reached far beyond the limited scope of individual existence. Such means of dealing with the history, not requiring us to follow the progress or heavily rely on the future, but at the same time reveals the wealth and importance in the main has already gone in the past forms of collective life, probably, and made the work of F. Braudel classic.

## *Список источников и литературы*

1. Бродель, Ф. Средиземноморье и средиземноморский мир в эпоху Филиппа II: в 3-х ч. / Ф. Бродель; пер. с фр. М.А. Юсима. – М.: Языки славянской культуры, 2004. – Ч. 3: События, политика и люди. – 640 с.

2. Афанасьев, Ю.С. Фернан Бродель и его видение истории / Ю.С. Афанасьев // Новая и новейшая история. – 1985. – № 5. – С. 62–71.
*4. Вжозек, В.* Человек в социальной системе Фернана Броделя / В. Вжозек // Споры о главном. Дискуссии о настоящем и будущем исторической науки вокруг французской школы «Анналов». – Москва: Наука, 1993. – 190 с.
3. Юсим, М.А. «Средиземноморье» Ф. Броделя: человек в ландшафте большой истории / М.А. Юсим // Новая и новейшая история. – 2009. – № 6. – С. 34–45.
5. Бродель, Ф. История и общественные науки. Историческая длительность / Ф. Бродель // Французский ежегодник-2002 [Электронный ресурс]. – Москва: Наука, 2002. – Режим доступа: http://www.fidel-kastro.ru/history/braudel/braudel.htm. – Дата доступа: 27.01.2011.
6. Соколов, М.Н. Историческая теория Фернана Броделя / М.Н. Соколов // Французский ежегодник-1972. – Москва: Наука, 1974. – С. 313–333.
7. Гуревич, А.Я. Исторический синтез и школа «Анналов» / А.Я. Гуревич. – Москва: Индрик, 1993. – 398 с.

*Научный руководитель –* **А.Н. Нечухрин***, доктор исторических наук, профессор.*

# АРХЕАЛОГІЯ І КУЛЬТУРНАЯ АНТРАПАЛОГІЯ

УДК 27-312.8:902

*В.С. Грышко*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

## ХРЫСЦІЯНСКІЯ ЭЛЕМЕНТЫ Ў ПАХАВАЛЬНАЙ АБРАДНАСЦІ БЕЛАРУСІ Ў XI–XIII стст.: ПРАБЛЕМЫ ІНТЭРПРЭТАЦЫІ

Статья посвящена проблеме поиска христианских элементов в погребальных памятниках на территории Беларуси в X–XIII вв. С учетом догматов и основополагающих церковных концепций автором выделяются признаки, в соответствии с которыми древнее погребение на территории Беларуси может быть отнесено к христианскому. Рассматриваются разные подходы в интерпретации этих признаков исследователями славянских древностей. Автором предлагается условная классификация христианских погребений на территории Беларуси в X–XIII вв. по степени достоверности «христианского характера» составляющих их элементов.

У гісторыі хрысціянства Беларусі перыяд XI–XIII стст. з’яўляецца асноватворным у фармаванні новага светапогляду. У гэты час праходзіць актыўнае знаёмства мясцовага насельніцтва з новай рэлігіяй: яе нормы прымаюцца ў якасці годнай альтэрнатывы паганскім вераванням альбо адмаўляюцца ў моц іншых фактараў. Канверсійныя працэсы цягнуць за сабой шэраг культурных, сацыяльных і эканамічных зменаў. У першую чаргу, змены закранаюць абраднасць, якая з’яўляецца яскравым выразнікам духоўнага жыцця, і, у тым ліку, адлюстроўваюцца на пахаваннях.

Падаецца лагічным, што матэрыялы археалагічнага вывучэння пахавальнай абраднасці значна пашыраюць магчымасці стварэння цэласнай карціны працэсаў хрысціянізацыі. І гэта даказана існаваннем навуковых артыкулаў і манаграфій, што раскрываюць пытанні хрысціянізацыі пэўных рэгіёнаў не толькі праз характарыстыку паўсядзённага

жыцця старажытнага насельніцтва, але і з дапамогай дадзеных аб іх пахавальных комплексах [22; 41; 25; 20; 34, с. 49; 21, с. 115–122; 4, с. 98–103 і інш.]. Тут паўстае праблема пошуку хрысціянскіх элементаў у пахаваннях. Да сённяшняга дня, у залежнасці ад інтэрпрэтацыі і аргументацыі тых ці іншых элементаў у старажытных пахаваннях усходніх славян, даследчыкі падзяляюцца на тры групы: «паганізуючая», «хрысціянізуючая» і «кампрамісная» [22, с. 38].

Разгледзім прыкметы хрысціянскага пахавання ў кантэксце царкоўнай традыцыі (паколькі тэма міждысцыплінарная і цесна звязана з тэалогіяй) і інтэрпрэтацыі даследчыкамі, а таксама ахарактарызаваць іх па ступені дастасаванасці да старажытных пахаванняў на тэрыторыі Беларусі. Будзем выкарыстоўваць рэтраспектыўны метад: паспрабуем перайсці ад сучаснага вобразу хрысціянскага пахавання, грунтуючыся на асноватворчых царкоўных канцэпцыях і гістарычна-археалагічных даследаваннях, да рэканструюемага вобразу старажытнага хрысціянскага пахавання.

Згодна з катэхізісам хрысціянскай царквы, пахавальны абрад павінен выказваць «пасхальны характар» хрысціянскай смерці ў надзеі на ўваскрэсенне [13, с. 111; 7]. Гэта абавязкова ямнае пахаванне з невялікім насыпам. Цела памерлага размяшчаецца гарызантальна ў труне, зарыентавана галавой на захад, рукі складзены. Над магільным насыпам устанаўліваецца крыж: у праваслаўнай традыцыі – над нагамі памерлага, у каталіцкай і пратэстанцкай традыцыі – над галавой [26; 27; 14].

Вядома, што сучасны вобраз хрысціянскага пахавання не мусіць быць цалкам аўтэнтычным вобразу хрысціянскага пахавання, характэрнаму для старажытнага грамадства. Натуральна, што фармаванне хрысціянскай пахавальнай абраднасці ажыццяўлялася на працягу некалькіх стагоддзяў і змянялася пад уздзеяннем царкоўных дагматаў і мясцовых традыцый. На пэўных этапах яно магло мець элементы, якія на дадзены момант не адпавядаюць нашаму ўяўленню аб хрысціянскім пахаванні (напрыклад, курганнае пахаванне).

Аб трансфармацыі хрысціянскага пахавальнага абраду не толькі ў мінулым, але і сёння сведчыць факт дазволу ў 1963 г. рыма-каталіцкай царквы на крэмацыю цела нябожчыка.

У адпаведнасці з вышэйапісаным вобразам хрысціянскае пахаванне мусіць быць ямным з невялікім насыпам. Як адзначаецца ў працы археолага і дыякана А.Я. Мусіна, у адносінах да магільнай ямы як да прыкметы хрысціянскага пахавання ніколі вялікіх спрэчак не назіралася [22, с. 41]. Большасць даследчыкаў (Н.Г. Нядошвіна, А.П. Моця, В.А. Булкін, Г.С. Лебедзеў) лічаць магільныя ямы вынікам хрысціянізацыі. Аднак ёсць і іншае меркаванне. Напрыклад, савецкі і расійскі археолаг В.Я. Канецкі сцвярджае, што з'яўленне грунтовых могілак не заўсёды звязана з уздзеяннем хрысціянства і абумоўлена прычынамі сацыяльнага характару [17, с. 167; 16, с. 62–79]. Пецярбургскі філосаф А.У. Карпаў перакананы ў тым, што ямнае пахаванне рэалізуе ідэю больш «надзейнага» ўкрыцця цела ў зямлю і не з'яўляецца ні ўмовай, якая «палягчае» ўваскрэсенне памерлага, ні, тым больш, умовай выратавання душы [12, с. 168].

На тэрыторыі Беларусі ямныя пахаванні з'яўляюцца ў XI–XIII стст. [10, с. 196; 19, с. 35, 46; 6, с. 16; 39, с. 90]. Даследчыкі беларускіх старажытнасцяў вытлумачваюць гэтыя змены як хрысціянізацыяй, так і этнічнымі ўплывамі. Напрыклад, Л.У. Дучыц ранняе з'яўленне інгумацый у падкурганных ямах на землях крывічаў звязвае з блізкасцю латгальскіх тэрыторый, дзе ў VI–VIII стст. нябожчыкаў хавалі ў грунтовых магілах. А вось Г.В. Штыхаў у пераходзе да грунтовых пахаванняў бачыць хрысціянскія прычыны [6, с. 16; 39, с. 90]. Факт распаўсюджвання грунтовых магіл у радзіміцкіх пахаваннях з хрысціянствам звязвае і У.У. Багамольнікаў. Ён адзначае, што большасць грунтовых магіл з'яўляецца тады, калі хрысціянства ўжо адносна ўмацавалася [4, с. 101]. Аднак ён прыводзіць шэраг аргументаў, паводле якіх нельга вытлумачваць з'яўленне ямных пахаванняў поспехамі хрысціянізацыі (напрыклад, у ямах сустракаецца арыенціроўка пахаваных, якая знаходзіцца ў рэзкіх

супярэчнасцях з хрысціянскімі канонамі, – усходняя і мерыдыяльная) [4, с. 101–102].

Такім чынам, ямнае пахаванне не можа выступаць у ролі самастойнага паказчыка хрысціянскага характару старажытнага пахавання, паколькі ў аснове пераходу да яго могуць ляжаць як рэлігійныя, так і этнічна-культурныя ўплывы. Гэты прызнак мы можам выкарыстоўваць толькі ў сукупнасці з іншымі «хрысціянскімі» элементамі ў якасці дадатковага доказу.

Што тычыцца бескурганнага пахавання (ці пахавання з невялікім насыпам), то тут прасочваецца ўпэўненая перакананасць навукоўцаў у язычніцкім характары кургана, калі ў ім бачаць касмаганічны сэнс і адлюстраванне сферычнай будовы свету [32, с. 254; 8, с. 597; 18, с. 520]. Нават паступовае памяншэнне колькасці курганоў з X–XII па XIV стст. трактуецца поспехамі хрысціянізацыі і даказваецца вынікамі археалагічных раскопак [9, с. 21–22].

Аднак сярод даследчыкаў ёсць тыя, хто даказвае, што курган – гэта не рэлігійная з’ява, а сацыяльная, і бачаць у ім своеасаблівае сацыяльна-статуснае пахавальнае збудаванне з відавочна выражанымі сімваліка-мемаратыўнымі функцыямі [12, с. 164; 29, с. 19]. Існаванне такой інтэрпрэтацыі робіць магчымым існаванне падкурганных хрысціянскіх пахаванняў. Доказам з’яўляюцца прыклады падкурганных пахаванняў з нацельнымі крыжыкамі, што сустракаліся пры раскопках на Кастрамскім Паволжжы (в. Ісаева, Баравікова) і на тэрыторыі Беларусі (напрыклад, у в. Курганне Жлобінскага р-на Гомельскай вобласці, в. Дулебы і Харчычы Бярэзінскага р-на Мінскай вобласці) [1, с. 489, с. 327, 381].

Калі ж прытрымлівацца перакананне ў паганскім характары курганоў, то факт наяўнасці ў іх прадметаў хрысціянскага культу можа быць растлумачаны наступным. Асобныя прадстаўнікі абшчыны ўспрымалі ідэі новай рэлігіі, але хавалі іх суродзічы, якія трывала захоўвалі старыя паганскія традыцыі. Тым не менш, напрошваецца выснова, што курганная форма пахавання не з’ўляецца перашкодай

для вызначэння яго як хрысціянскага.

Трэцім пунктам хрысціянскага пахавання, згодна з сучаснымі царкоўнымі канонамі, з'яўляецца трупапалажэнне, ці інгумацыя. У пераважнай большасці даследчыкі лічаць пераход у Х–ХІІІ стст. ад трупаспаленняў да трупапалажэнняў у пахаваннях старажытных славян паказчыкам хрысціянізацыі [23, с. 49–32; 28, с. 97; 24, с. 113; 31, с. 35]. Грунтуецца ён на царкоўным дагмаце аб уваскрэсенні. Калі закрануць біблейскія тэксты, то тэма ўваскрэсення ўзгадваецца ў Старым і Новым Запаветах, замацаваны ў Нікейска-Цараградскім сімвале веры, прынятым у 381 г. [3, с. 1114, 1442]. Тое, што ўваскрэсенне мусіць адбыцца ў целе, фарміруе асаблівыя адносіны да цела нябожчыка: клопат і дбаннне (цела абмываецца, убіраецца ў святочную вопратку) [3, с. 1473]. Дбанне пра цела памерлага дапаўняецца і тэзай аб тым, што цела хрысціяніна – гэта храм Духа Святога [3, с. 1428]. Таму лагічна, што інгумацыя ў дадзеным выпадку з'яўляецца больш прымальнай формай пахавання для хрысціян, чым крэмацыя.

У дакументах царкоўнага права Х–ХІІІ стст., якое распаўсюджвалася на землі ўсходніх славян, адсутнічае тэма пахавальных вогнішчаў (у адрозненне ад Заходняй Еўропы, дзе ў Саксонскіх капітулярыях 775–790 гг. Карл Вялікі пад пагрозай смерці забараняе спаленне целаў памерлых). Гэта растлумачваецца тым, што Царква ніколі не звязвала пахавальны абрад і пасмяротны лёс памерлага. Пэўныя рысы абраду фарміруюцца пад уплывам «народнай хрысціянскай эсхаталогіі» (дзедаўскі жах памерці непахаваным), што дае падставы ў лік крэмацыйных пахаванняў уключыць і хрысціянскія [12, с. 155].

Адмоўнае стаўленне Царквы да абраду крэмацыі, па словах пецярбургскага філосафа А.У. Карпава, матывавана не бояззю таго, што спаленне нашкодзіць пахаваным (Бог моцны аднавіць цела для ўваскрэсення), а зыходзіць з таго, што для тых, хто спальвае сваіх блізкіх, гэтае дзеянне не павучальнае і выклікае ў душы больш роспач, чым надзею

[12, с. 151–156]. Адмова ад спаленняў можа быць звязана і з усведамленнем агню як асаблівага сродка «пакарання» і яго ролі ў апошніх лёсах свету (стан грэшнікаў у пекле і прароцтва аб тым, што Зямля і ўсе справы на ёй згарацць) [3, с. 1397, 1525, 1531].

На тэрыторыі Беларусі інгумацыйныя пахаванні з'яўляюцца з канца X ст. і замяняюць абрад крэмацыі на працягу XI–XII стст., калі на тэрыторыі Беларусі паступова распаўсюджваецца хрысціянства [2, с. 178; 6, с. 16; 39, с. 63; 19, с. 46; 5, с. 111; 37, с. 51; 11, с. 15]. Прычыну гэтых зменаў некаторыя даследчыкі схільныя бачыць у сацыяльна-эканамічных пераўтварэннях ці этнічных уплывах. Напрыклад, савецкі археолаг Б. А. Рыбакоў адзначаў, што на распаўсюджванне інгумацый уплываў распад старых родавых адносін, а адмова ад спаленняў сустракалася і раней: у V ст. да н.э., II–IV стст. (Чарняхоўская культура) [30, с. 481]. Аднак ён робіць агаворку, што адмова гарадскога насельніцтва ад крэмацыі ў X–XI стст., безумоўна, непасрэдна звязана з прыняццем хрысціянства [30, с. 38].

Адмаўляў хрысціянскі характар інгумацыйных пахаванняў і даследчык В.В. Сядоў, таму што ў сярэдзіне X ст. інгумацыйныя пахаванні распаўсюджваліся і ў «глухіх месцах» усходнеславянскага арэалу (Верхняе Падняпроўе, Волга-Окскае міжрэчча), дзе, на яго думку, было немагчымым шырокае пранікненне хрысціянства сярод сельскага насельніцтва [35, с. 113]. А ў паўднёва-рускіх землях першыя трупапалажэнні адносяцца да часу, які адстае на два стагоддзі ад «хрышчэння Русі» [35, с. 98]. Таму, на думку В.В. Сядова, для прызнання абрада хрысціянскім інгумацыю трэба разглядаць не саму па сабе, а ў сувязі з іншымі прыкметамі пахавальнага абраду.

Такім чынам, нягледзячы на тое, што дагмат хрысціянскай царквы аб уваскрэсенні цела спрыяў распаўсюджванню і замацаванню ідэі інгумацыйнага пахавання, мы не можам лічыць яго адназначным паказчыкам хрысціянскага пахавання ў X–XIII стст. Гэты

перыяд характарызуецца не толькі рэлігійнымі, але і значнымі сацыяльнымі і этнічнымі пераўтварэннямі, якія не менш, чым хрысціянства, паўплывалі на пахавальную абраднасць.

Як мы ўзгадвалі вышэй, сучаснае хрысціянскае пахаванне ажыццяўляецца ў труне. Ідэалагічнай асновай гэтага элементу можа выступаць ідэя ўваскрэсення веруючага чалавека ў целе, дбанне аб нябожчыку. Трунныя пахаванні з'яўляюцца ў Заходняй Еўропе ў VII–VIII стст. і характэрны для пахавання заможных людзей. Шырокае распаўсюджанне яны атрымліваюць у XIII ст. [41, с. 92]. На тэрыторыі Беларусі трунныя пахаванні з'яўляюцца ў XI ст. і паступова шырока распаўсюджваюцца [2, с. 178]. Згодна з даследаваннямі Е.А. Шмідта, які вывучаў пахаванні смаленскіх крывічоў у перыяд пераходу ад язычніцтва да хрысціянства, драўляная труна з XIV ст. становіцца абавязковай [38, с. 92]. У моц таго, што труна часцей сустракаецца ў гарадскіх і прыцаркоўных пахаваннях, мы можам лічыць яе хрысціянскай прыкметай, аднак для верагоднасці лепш разглядаць яе ў сукупнасці з іншымі хрысціянскімі элементамі пахаваня.

Важнае месца ў характарыстыцы хрысціянскага пахавання займае арыентацыя цела нябожчыка галавой на Захад. Усход у хрысціянскім вучэнні мае асаблівую духоўную значнасць: акрамя прышэсця Хрыста з Усходу, там быццам знаходзіцца страчаны чалавекам рай [3, с. 1212; 33]. Таму хрысціянскія храмы будуюцца алтаром на Усход, і тварам на Усход хаваюць памерлых хрысціян.

Арыентацыю нябожчыка на захад даследчыкі старажытнасцей усходніх славян звычайна прылічваюць да агульнаславянскай традыцыі. Яна ў X ст. сустракаецца ў валынян, драўлян, дрыгавічоў і інш. [35, с. 98, с. 105; 19, с. 46]. Аднак паралельна заходняй арыенціроўцы ў пахаваннях XI–XII стст. на беларускіх землях сустракаюцца пахаванні і з усходняй арыенціроўкай (зрэдку паўночнай ці паўднёвай) [39, с. 65; 35, с. 120]. П.Ф. Лысенка, Р.В. Штыхаў і В.В. Сядоў тлумачаць гэты факт сувяззю пахавальных

традыцый славянскага насельніцтва з традыцыямі балтаў – папярэднікаў славян на беларускіх землях [19, с. 46; 39, с. 65; 35, с. 120]. Таму лічыць адназначна хрысціянскім элементам славянскага пахавання заходнюю арыентацыю цела нябожчыка нельга. Канешне, ёсць даследчыкі, якія вылучаюць гэты элемент як асаблівы і ўказваюць на хрысціянскі характар пахавання (Г.Ф. Салаўёва, Ф.Д. Гурэвіч, А.Я. Мусін і інш.), аднак яны ўкладаюць у яго сэнс другаснага індыкатара, а не вядучага і вызначаючага [36, с. 106].

З пачатку існавання Царквы для яе было характэрна своеасаблівае разуменне хрысціянскай супольнасці. Кожны з яе прадстаўнікоў дбае аб сваім выратаванні і дапамагае ў выратаванні сваім братам, бо яны ведаюць, што па ўваскрэсенні складуць Адзіную Усяленскую Царкву. З гэтага зыходзіць ідэя адзінства супольнасці хрысціян жывых і памерлых, што вядзе да абсалютна адрознага ад паганскага разумення смерці. Калі ў паганскім асяроддзі на памерлага глядзелі як на мерцвяка, пабойваліся і стараліся пахаваць на аддаленні ад паселішча (на палях, у лясах), то хрысціянская супольнасць не аддзяляе нябожчыка ад сябе, а, наадварот, імкнецца стварыць з ім адно цэлае. Адсюль паняцце «ўрбанізацыі могілак» (дадзенае М. Ранбкоўскім) [41, с. 91]. Па-другое, імкненне быць не толькі ў жыцці, але і пры смерці на святым месцы, у супольнасці вернікаў прывяло да ўзнікнення пахаванняў у месцах ушанавання святых пакутнікаў. Гэты прынцып фарміруе такі элемент хрысціянскага пахавання, як размяшчэнне хрысціянскіх пахаванняў на прыцаркоўных ці асвечаных могілках.

Сярод такіх пахаванняў – пахаванні полацкіх епіскапаў у саркафагах, зробленых у Спаса-Еўфрасіньеўскай царкве ў Полацку [39, с. 91], пахаванні ў дамавінах скрынкавага тыпу з дошак на месцы Мінскай замкавай царквы, пахаванні ў саркафагах у Тураўскім кафедральным саборы [2, с. 80]. Польскі даследчык М. Ранбкоўскі адзначыў, што «згодна з лацінскімі касцёльнымі дакументамі, першапачатковай рысай пахавання хрысціяніна павінна быць пахаванне на

асвечанай тэрыторыі і толькі ў пазнейшых дакументах – інгумацыя» [41, с. 91].

Напэўна, гэта самы бясспрэчны паказчык хрысціянскага пахавання, калі яно зроблена ў храме, на прыцаркоўнай тэрыторыі ці на асвечанай зямлі, дзе размяшчалася капліčка.

Яшчэ адным даволі яскравым элементам хрысціянскага пахавання з'яўляецца наяўнасць прадметаў хрысціянскага культу і надмагільных крыжоў у пахаванні. Калі надмагільныя крыжы не ставяцца пад сумненне як прыкметы хрысціянскага пахавання, то з прадметамі асабістага культу вымалёўваецца іншая сітуацыя. Крыжыкі, якія сустракаюцца ў пахаваннях XI–XII стст. на тэрыторыі Беларусі, часта ўваходзяць у склад караляў ці выконваюць ролю падвесак, што знаходзяцца на адной нізцы з зааморфнымі падвескамі, шумячымі прывескамі і бубеньчыкамі [15, с. 166]. Такая форма адносінаў да крыжа карэнным чынам адрозніваецца ад сучаснай. Гэта дае падставу даследчыкам не заўсёды лічыць пахаванні з крыжамі хрысціянскімі. У такім выпадку крыж інтэрпрэтуецца як паганскі салярны сімвал.

Абвяржэннем такіх довадаў можа быць даследаванне М.А. Макарава, прысвечанае крыжам і абразкам у пахаваннях Белаазер'я і Каргапаля [20, с. 11]. Згодна з яго высновамі, нашэнне крыжоў і паганскіх амулетаў не было ўзаемавыключным, па меншай меры, для сярэдзіны XI– пачатку XII стст. Яны прымацоўваліся да розных частак касцюма, прытым крыж мог знаходзіцца толькі на шыі альбо на грудзях. Знаходкі крыжоў часцей сустракаліся ў пахаваннях XII ст. Але ўжо ў XIII–XIV стст. у безінвентарных пахаваннях з заходняй арыенціроўкай, якія несумненна належалі хрысціянам, крыжы і абразкі не сустракаюцца. Гэты факт вытлумачваецца даследчыкам тым, што пахаванне з крыжамі і абразкамі ажыццяўлялася на самых ранніх этапах далучэння да хрысціянства (сярод неафітаў) і мела на мэце дэманстрацыю свайго пераходу да новай рэлігіі.

Між іншым, патрэбна было б узгадаць вынікі

даследавання, праведзенага шведскай даследчыцай А.С. Грёслунд па пытанню ролі жанчыны ў хрысціянізацыі Швецыі. Сярод высноў – перавага наяўнасці крыжыкаў у пахаваннях жанчын і дзяцей, што дае магчымасць сцвярджаць, што жаночае насельніцтва было больш успрымальным да ўплываў хрысціянізацыі [42, с. 313–329]. Падобныя высновы ўтрымліваюцца і ў даследаваннях М.А. Макарава [20, с. 16].

Зыходзячы з вышэйсказанага, можна адзначыць, што знаходкі крыжоў і абразкоў у пахаваннях не даюць магчымасці падзяліць пахаванні XI–XII стст. на хрысціянскія і паганскія і прасачыць паступовыя змены суадносінаў хрысціян і язычнікаў у старажытнарускім грамадстве. Аднак на ранніх этапах хрысціянізацыі дадзены элемент выступае ў якасці аднаго з найважнейшых паказчыкаў хрысціянскага пахавання і дэманструе карэнныя зрухі ў тагачаснай рэлігійнай сітуацыі.

Яшчэ адным элементам хрысціянскага пахавання прынята лічыць скрыжаванае на грудзях становішча рук. Яго навукоўцы звязваюць з уплывам хрысціянства, а іншае становішча рук характарызуюць як паганскае [22, с. 46]. Аднак даследчыца гарадскога пахавальнага абраду XI–XVI стст. Т.Д. Панова, прааналізаваўшы мініяцюры Ліцавога Зводу XVI ст., прыйшла да высновы, што на той час не існавала адзінага канона выяўлення рук пахаваных, адпаведна, можна выказаць здагадку, што такіх правілаў не існавала і пры пахаванні. Такую ж асаблівасць абраду можна дапусціць і для часу, які папярэднічаў XVI ст. Становішча рук само па сабе не сведчыць аб недастатковай ступені хрысціянізацыі дадзенай мясцовасці.

Апошнім крытэрыем хрысціянскага пахавання, які мы разгледзім, з’яўляецца безінвентарнае пахаванне. У хрысціянскім светапоглядзе асабліва падкрэсліваецца думка аб тым, што пры пераходзе ў вечнае жыццё чалавек нічога не можа ўзяць з сабой [3, с. 856]. Таму хрысціянскія пахаванні павінны быць сціплымі, бо пры пераходзе ў вечнае

жыццё чалавек не зможа з сабой нешта ўзяць з гэтай зямлі і папросту не будзе мець там у гэтых рэчах патрэбу.

На гэтай тэзе зыходзяцца многія навукоўцы. Аднак тут варта ўзгадаць меркаванне польскага даследчыка А. Каперкевіча аб тым, што хрысціянскае раннесярэднявечнае пахаванне магло ўтрымліваць пэўную колькасць бытавых прадметаў, прытым не малую. Яны не прызначаліся для карыстання нябожчыкам у вечным жыцці, а маглі складаць частку «сакральнага спектакля, паўтарэння жыцця Ісуса, у якім жалобніцы-акторкі выкарыстоўвалі шмат пахавальных дароў» [40, с. 286]. У якасці такіх дароў маглі выступаць звычайныя прадметы: верацяно – сімвал працягласці жыцця, ці Марыін сімвал, меч – сімвал Слова Божага, вагі – сімвал смерці і суду і г.д.

Такі элемент пахавання, як малалікасць інвентару, можа служыць дадатковым паказчыкам, характарызуючым пахаванне і дазваляючым развіць інтэрпрэтацыю пэўнага пахавання, але не можа выступаць адназначным паказчыкам хрысціянскага характару таго ці іншага пахавання.

Калі прааналізаваць разгледжаны вышэй матэрыял, то можна заўважыць, што адны крытэрыі хрысціянскага пахавання з'яўляюцца больш «надзейнымі» індыкатарамі, другія – менш. З улікам гэтай якасці намі былі выдзелены тры групы старажытных пахаванняў, да якіх могуць быць аднесены пахаванні на тэрыторыі Беларусі.

Першую групу складаюць пахаванні ў храмах, на прыцаркоўнай ці асвечанай тэрыторыі. Да іх ліку таксама можна аднесці гарадскія і вясковыя пахаванні, якія ўтрымліваюць прадметы хрысціянскага культу ці надмагільныя крыжы. Гэтыя прыкметы (іх можна назваць безумоўнымі ідэнтыфікатарамі) з'яўляюцца найбольш прыдатнымі для таго, каб лічыць пахаванне верагодна хрысціянскім.

Да другой групы адносяцца пахаванні, у якіх мае месца спалучэнне так званых комплесных прыкметаў, гэта значыць інгумацыі, арыентацыі цела нябожчыка галавой на захад, скрыжаванага становішча рук, наяўнасці труны. Гэтыя

прыкметы мы ўмоўна назвалі комплекснымі, паколькі яны ў моц падвоенай інтэрпрэтацыі іх даследчыкамі не здольныя выступаць у якасці самастойных індыкатараў хрысціянскага пахавання. Толькі ў сумесным спалучэнні і з улікам этнічнага і сацыяльна-культурнага кантэксту пахаванні з дадзенымі прыкметамі мы можам аднесці да хрысціянскіх.

Трэцюю групу хрысціянскіх пахаванняў мы назвалі ўмоўнай. Да іх ліку адносяцца крэмацыйныя пахаванні. Як было прадстаўлена вышэй, сярод пахаванняў па абраду крэмацыі маглі быць і хрысціянскія, аднак іх даследаванне з мэтай вырашэння пытання іх рэлігійнай прыналежнасці, на жаль, з'яўляецца складанай задачай, бадай што не вырашальнай. Магчыма, аналіз пахавальнага інвентару зможа даць пэўныя адказы на гэтыя пытанні.

Такім чынам, для тэрыторыі Беларусі можна вылучыць крытэрыі хрысціянскага пахавання, якія грунтуюцца на царкоўных канцэпцыях і дагматах, а таксама высновах гісторыка-археалагічных даследаванняў. Яны дазваляюць ідэнтыфікаваць старажытнае пахаванне як хрысціянскае. Прапанаваная намі класіфікацыя хрысціянскіх пахаванняў паводле ступені верагоднасці хрысціянскіх прыкметаў адкрыта для далейшага развіцця і з'яўляецца першым крокам да стварэння ўніфікаванага алгарытму, паводле якога можна будзе вызначаць рэлігійную прыналежнасць старажытных пахаванняў усходніх славян.

The article gives an insight into the search problem of Christian elements in funeral monuments of X–XIII centuries on the territory of Belarus. Considering the dogmas and fundamental church concepts, the author identifies the features evidencing the Christian nature of ancient burials on the territory of Belarus. The article then explains various approaches of how the researchers of Slavic antiquities interpret such features. The author offers conventional classification of Christian burials of X–XIII centuries on the territory of Belarus according to the degree of Christian nature credibility of their components.

шукоў. Частка праваслаўных культавых дзеянняў увайшла ў некаторыя хатнія абрады, напрыклад, у дабраславенне абразом жаніха і нявесты. У сваю чаргу, бытавыя дэталі ўпляліся ў царкоўную службу (вызначэнне лёсу дзіцяці па яго паводзінах падчас хрышчэння), склаўшы яе неад'емны кампанент.

Акрамя абрадаў і звычаяў, на Палессі ўстойліва трымаюцца традыцыі сямейнага плану: перадсвяточная ўборка дамоў, наведванне родных, асабліва сваякоў жонкі (хаджэнне да «цешчы на бліны»).

Найважнейшым праваслаўным святам у палешукоў і сёння застаецца Вялікдзень. Нават тыя прыхаджане, якія наведваюць царкву адзін–два разы на год, у гэты дзень лічаць немагчымым прапусціць царкоўнае набажэнства.

Нераздзельнасць элементаў праваслаўя на Палессі і дахрысціянскіх вераванняў (Каляды і Нараджэнне Хрыстова; Купале і інш.) у рэлігійным комплексе не ўсведамляецца масай вернікаў. Але іх нельга скідаць з рахункаў, яны адчувальныя і працягваюць жыць, напаўняючыся новым, сучасным зместам. Мабыць, у чалавека ёсць псіхалагічная патрэба быць упэўненым у чымсьці, жаданне зазірнуць у будучыню. Не выпадкова ўсе прыкметы, звычаі і абрады, пабудаваныя па своеасаблівай схеме «не рабі так, каб не здарылася гэтак», азначае вечнае чалавечае імкненне палепшыць сваё жыццё.

Такім чынам, з пагляду сённяшняга часу, можна канстатаваць як факт, што ў сувязі з перапляценнем самых розных традыцый паганскіх і хрысціянскіх вераванняў фактычна зніклі антаганістычныя і непрымірымыя адносіны паміж імі. А збліжэнне і ўзаемасувязь забяспечылі захаванне духоўна-культурных каштоўнасцяў, багаццяў набытых і назапашаных з пакалення ў пакаленне на працягу шматлікіх стагоддзяў на землях беларускага Палесся.

The author of the article has analyzed the influence of paganism on various aspects and features of the Orthodox confession in the Polesye region. Special attention is paid to world-view approaches and interrelationships between Christianity and paganism. The author claims that, despite the fight of Christianity against different manifestations of paganism, the latter has not

been eradicated. Now the traditions of the old (pagan) and new (Christian) confessions have interwoven, and they have come into everyday life of the poleshuks, residents of the Polesye region, and have become an integral part of their world outlook and cultural heritage.

## *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Голубинский, Е.Е. История русской церкви / Е.Е. Голубинский. – М., 1904. – Т. 1, ч. II. – С. 849.
2. Цярохін, С.Ф. Перунова цяпельца: эсе ці некалькі згадак з гісторыі нашага народа / С.Ф. Цярохін. – Мінск: Юнацтва, 1993. – 126 с.
3. Свенцицкая, И.С. Раннее христианство: страницы истории / И.С. Свенцицкая. – М.: Политиздат, 1989. – 339 с.
4. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 139.

*Навуковы кіраўнік –* **М.В. Цуба***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.*

УДК 398(476.7)

*А.А. Пашкевіч*
*(Пінск, ПалесДУ)*

# ВУСНАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ У ЖЫЦЦІ ПАЛЕШУКОЎ

Автор статьи обращается к разрешению непростой задачи: проанализировать наиболее известные традиции в устном народном творчестве полешуков. Для этого необходимо понять, что без глубокого знания своих корней и истоков нельзя понять культурные особенности Полесского региона. В центре внимания – полесский фольклор, который является неотъемлемой частью жизни полешуков и сопровождает человека от рождения до смерти.

Важная частка нашай нацыянальнай і духоўнай культуры – вусная народная творчасць (фальклор). Яна здаўна служыць сродкам вобразнага пазнання жыцця, праўдзіва адлюстроўвае думкі, надзеі, мэты людзей, дапамагае ім у барацьбе за лепшую будучыню. На працягу многіх стагоддзяў вусная народная творчасць была важнай формай выражэння духоўнага жыцця палешукоў: яна з'яўлялася і з'яўляецца неад'емнай часткай культурнай спадчыны беларускага народа.

Вусная народная творчасць заўсёды была звязана з жыццём і працоўнай дзейнасцю людзей. Яна служыла для непісьменных і прыгнечаных мас зброяй у барацьбе са стыхійнымі, сацыяльнымі, варожымі сіламі, адлюстроўвала народную гісторыю, філасофію, прыродазнаўства, жыццёвы вопыт. Фальклор – сапраўднае мастацкае асэнсаванне ўсёй стагоддзямі назапашанай народнай мудрасці. Скарбніцай гэтай мудрасці з'яўляюцца людзі, палешукі-рупліўцы, якія ўмеюць спорна працаваць, умеюць і весяліцца, у якіх «сэрца, як жар той гарачы, ды адкрыта душа для другога». Не пакіне нікога абыякавым прываблівы вобраз дзяўчыны з Піншчыны ў вершы А. Бібіцкага:

*Ідзе пінчанка ў промнях сонца,*
*Абцасік звоніць аб шашу,*

*А засмяецца – свет мілее і восенню цвітуць лугі,*
*А тварык – нібы та лілея, як змаладнелыя сцягі ...*
[1, с. 219]

Як бачым, фальклор цесна звязаны з мастацкай літаратурай і паэзіяй, але ён мае свае спецыфічныя рысы. Галоўнымі з іх з’яўляюцца калектыўны характар фальклорных твораў і іх існаванне ў вуснай форме. Фальклор як масавая калектыўная творчасць паўстаў у глыбокай старажытнасці, калі ў людзей з’явіліся свядомасць і мова, калі паўстала неабходнасць зносін пры дапамозе вымаўлення гукаў, слоў, песень. Тады калектыўна пачалі стварацца і выкарыстоўвацца фальклорныя творы, у якіх творчая індывідуальнасць аўтара злілася з калектыўным голасам і словам роду ці племені.

У вуснай паэтычна-былiннай творчасці нашых продкаў – у казках, песнях, былінах, паданнях, прыказках і прымаўках – быў прадстаўлены своеасаблівы кодэкс маральных каштоўнасцяў, праглядаліся матывы сацыяльнага аптымізму, апяваліся грамадска-палітычныя ідэалы. На першым месцы была любоў да сваёй зямлі, да Бацькаўшчыны:

*Родная зямелька як змораному пасцелька;*
*У родным краю, як у раі;*
*Родная зямелька – маці, чужая старонка – мачаха;*
*На чужой старонцы рад сваёй варонцы.*

Любоў да бацькоўскай зямлі  немагчыма без любові да матчынай мовы, а яна на Палессі асаблівая. Сучасная паэтэса-паляшучка Т. Лазнюха піша:

*Пявуча мова з зычным дыялектам,*
*Ну дзе яшчэ пачуеце такі.* [1, с. 220]

Не менш значным было праслаўленне працы, зацвярджэнне павагі да чалавека-працаўніка:

Хто працуе, таму і шанцуе;
Як папрацуеш, то ў кожнай страве мёд пачуеш.

Духоўны свет палешукоў, іх светапогляд абавязкова выяўляліся ў развіцці фальклору, песеннага, музычнага і харэаграфічнага мастацтва. У песнях расказвалася аб характары мясцовасці, у якой жылі носьбіты палескай культуры: шмат сустракаецца слоў «поле», «гара», «горка», «горыса»,

«ліс», «бор», «пушча», «дуброва». У вуснай народнай творчасці Палесся ў перыяд сярэднявечча важнае месца займалі каляндарныя (калядныя, купальскія, пятроўскія, жніўныя, а таксама сямейна-абрадавыя песні. У іх апявалася навакольная прырода, усхваляліся прыгажосць і багацце высокіх чалавечых пачуццяў, духоўна-маральныя якасці людзей, іх працоўная дзейнасць. У казках, прыказках, былінах паказвалася імкненне простых людзей да справядлівасці, іх пачуццё гумару.

Нараўне з народнымі паданнямі аб навакольным свеце ў вуснай народнай творчасці адлюстроўваліся і важнейшыя гістарычныя падзеі. У прыватнасці, у прыказках і прымаўках з'явіліся сюжэты, звязаныя з татарскімі набегамі:

*Няма на свеце горшай веры, як басурманы-татары;*

*Страшан, як мангол;*

*Рана татарам на Русь ісці.*

Народны эпас, які займае важнае месца ў фальклоры эпохі феадалізму, з'яўляецца каштоўным аспектам вуснай народнай паэтычнай творчасці палешукоў, багаццем нашай славесна-мастацкай культуры. У гэты час узмацняецца сатырычны кірунак вуснай паэзіі, вострая сатыра ўласцівая амаль усім жанрам фальклору. У іх з'едліва высмейваліся польскія магнаты, феадалы і шляхта. Сатыра выступае не толькі ў шматлікіх казках, песнях, прыказках, народнай драме, але і ў народных анекдотах. Вось адзін з такіх твораў:

Мужык бядуе:

- *Ніяк не ўдаецца пад'есці хлеба з бярозавым сокам.*

- *Чаму?*

- *Ды як прыйдзе восень, ёсць хлеб, а соку няма. А прыйдзе вясна – ёсць сок, а хлеба няма.*

Асаблівае месца ў палескім фальклоры займае спадчына старажытнай каляндарнай і сямейна-абрадавай паэзіі, казачны эпас. Каляндарна-абрадавая паэзія паўстала ў непасрэднай сувязі з тымі абрадавымі дзеяннямі і чароўнымі сродкамі, якімі чалавек, паводле яго светапогляду і перакананняў таго часу, спрабаваў уздзейнічаць на сілы прыроды і такім спосабам забяспечыць ураджайнасць зямлі, поспех на

паляванні, свой дабрабыт. Так, каляндарна-абрадавай паэзіі ўласцівая цесная сувязь з працай, асабліва земляробствам. Лічылася, напрыклад, што араць зямлю трэба басанож, тады ўраджай будзе добрым. Калі сеялі жыта, то апраналі чыстую вопратку, каб на полі не расла трава. Звычайна сеялі ў пятніцу і суботу, але ніколі не рабілі гэта ў панядзелак.

Асноўныя абрады і звязаныя з імі цыклы вусна-паэтычных твораў групаваліся на аснове паганскіх святаў, суадносных, у сваю чаргу, з тымі перыядамі года, якія мелі найбольш важнае значэнне ў гаспадарцы. Увесь гадавы цыкл абрадаў і абрадавай паэзіі звязаны з самымі важнымі этапамі сельскагаспадарчых работ.

У жанравым дачыненні каляндарна-абрадавай паэзіі пераважалі рознага роду песні, прысуды, загаворы, драматызаваныя дыялогі, замовы. Вось як гучыць песня-замова аб нованароджаным:

*Штоб маё дзіцятка*
*Вялікае расло,*
*Штоб маё малое*
*Шчаслівае было.*

Ва ўсіх народаў свету асноўнымі момантамі, якія вызначаюць жыццёвы шлях кожнага чалавека, з'яўляюцца яго нараджэнне, вяселле і смерць. З даўніх часоў яны суправаджаліся разнастайнымі абрадамі, прыкметамі, варожбамі і выкананнем твораў вуснай паэзіі розных жанраў: песнямі, плачам, прымаўкамі. Напрыклад, лічылася, калі дзіця нарадзілася ўзімку, то будзе добрым працаўніком, калі летам – будзе злосным і ўсе яго будуць баяцца, увосень – будзе жыць багата, калі ж вясной – то будзе добрым спеваком і танцорам.

Апяваючы гераічнае прыгожае і асуджаючы ўсе ілжывае і нявартае, фальклор даваў людзям ўзоры паводзін у жыцці, выхоўваў іх:

*Без працы няма чаго хлеба шукаці;*
*Без мазаля на руках не будзеш мець хлеба ў зубах;*
*Старога паважай, малога павучай.*

У палескім фальклоры таксама маецца шмат гістарыч-

ных песень, легенд, казак аб войнах са шведамі, французамі, паўстанні 1863 г., рэвалюцыях, імперыялістычнай вайне і аб іншых сацыяльна значных падзеях. Так, у прыватнасці, палешукі пераконваліся ў тым, што вайна выгадная толькі пануючым класам, якія нажывалі сваё багацце на крыві і няшчасці народа. Таму з'явіліся такія прыказкі і прымаўкі:

*Вайна кроў людскую п'е;*
*Вайна – каму вяроўка, а каму дойная кароўка.*

Іншы прыклад такога ж зместу:

*Зноў у хаце закурыцца*
*Асінай – дрывамі.*
*Годзе, братцы, трэба біцца*
*За зямлю з панамі.*

У другой палове XIX ст. фальклор таксама адыгрываў важную ролю ў духоўным жыцці беларускага народа. Папулярнасцю ў народзе карысталася абрадавая паэзія, асабліва вясельная. Існаваў цэлы шэраг забабонаў, звязаных з уступленнем у шлюб. Напрыклад, каб ніхто не зачараваў маладую (нявесту), яна брала галоўку цыбулі ці часныку і насіла яе з сабой усё вяселле. Каб маладыя шчасліва даехалі да царквы, маці нявесты брала вядро з вадой і аблівала ўсіх коней. Калі падчас вянчання нявеста наступала жаніху на ногі, то гэта азначала, што ўсё жыццё яна будзе кіраваць сваім мужам [2, с. 23].

Карэнныя змены ў сацыяльным жыцці насельніцтва выклікала развіццё капіталізму. У гэты перыяд падкрэслівалася, што фальклор з'яўляецца адным з важнейшых сродкаў пазбаўлення ад цемнаты і невуцтва, як найпершая жыццёвая патрэба [3, арк. 9]. Новым у фальклоры стала адлюстраванне цяжкай працы рабочых на фабрыках, у майстэрнях, на будаўніцтве чыгунак.

Своеасаблівасцю вызначаўся рэвалюцыйны фальклор, што стварыў вобраз змагара за народнае шчасце, змагара, які гатовы на любыя ахвяры, не шкадуючы свайго жыцця ў імя вялікіх ідэй. Напрыклад:

*Шалееце, каты, піце нашу кроў,*
*Адкрылі астрогі, нанялі шпікоў,*

*Паўстаньце да бою, народ катаваны,*
*На смерць, на смерць, на смерць, вам, тыраны!*

Як вынікае з сказанага вышэй, вусная народная творчасць на ўсіх этапах свайго развіцця праўдзіва адлюстроўвала грамадскае жыццё. Ужо таму фальклор з'яўляецца адной з самых важных крыніцай гісторыі. Нельга не пагадзіцца з беларускім паэтам С. Гарадзецкім, які даў вельмі дакладную характарыстыку асаблівасцяў беларускага фальклору: «У несмяротнай каморы паэтычных твораў, створаных славянскімі народамі, беларуская народная паэзія ззяе, як адна з самых старажытных і самых яркіх каштоўнасцяў» [4, с. 18]. Гэтыя словы правамерна аднесці і да фальклору Палесся.

Сёння вусная народная творчасць працягвае развівацца, ствараецца шмат народных песен і прыпевак, анякдотаў, прыказак, прымавак, легенд і казак. Галоўнымі асаблівасцямі фальклорнага працэсу Палесся нашых дзён з'яўляюцца яго шматграннасць і разнавіднасць формаў, а таксама багатае праяўленне мастацкіх талентаў народных мас.

The author of the article tries to solve a difficult problem – to analyze the best-known traditions in the folklore of the poleshuks, residents of the Polesye region. It should be kept in mind that without deep knowledge of one's history and origin one cannot understand the specific cultural features of the Polesye region. The author has focused on the Polesye folklore, which is an integral part of the lives of the local folk, since birth till death.

## *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Чыжыкава, Н.С. Піншчына ў паэтычных радках / Н.С. Чыжыкава. – Пінск, 2009. – 242 с.
2. Захарава, В.А. Палескае вяселле / В.А. Захарава. – Пінск, 1989. – 57 с.
3. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 131.
4. Гарадзецкі, С. Культура – мова – палітыка / С. Гарадзецкі. – Мінск: Вышэйшая школа, 1984.

*Навуковы кіраўнік –* **М.В. Цуба**, *кандыдат гістарычных навук, дацэнт.*

# ГІСТАРЫЧНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА

УДК 94(476.6)

*А. Т. Адамовіч*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

## ВЕРАСЕНЬ 1939 г. ВА ЎСПАМІНАХ ЖЫХАРОЎ ЛІДЧЫНЫ

Лида и Лидчина, как и вся Западная Беларусь, переживала в сентябре 1939 г. значительные для истории события. Начало войны, смена власти повлекли за собой изменения в повседневной жизни людей. Население разделилось: кто-то ждал прихода Красной Армии, другие, наоборот, его опасались. Несмотря ни на что, красноармейцев встречали торжественно и в вооруженное столкновение с лидчанами им вступать не пришлось. После того, как Красная Армия обосновалась на новой территории, начались преобразования, которые население также оценивало по-разному.

Ёсць падзеі, якія назаўсёды застаюцца ў людской памяці, напрыклад, Другая сусветная вайна. Ніхто не раскажа пра вайну, пра родныя мясціны ў гэты перыяд дакладней, чым іх відавочцы. Верасень 1939 г. для беларусаў –адзін з найбольш эмацыянальных перыядаў у гэтай вайне. Нацыя, якая два дзясяткі гадоў была падзелена паміж варагуючымі краінамі, нарэшце аб'ядналася. Адразу ўзнікла пытанне гістарычнай ацэнкі гэтых падзей, якое на доўгі час сфарміравала дзве супрацьлеглыя пазіцыі ў грамадскай думцы і гістарычнай навуцы. Крыніцазнаўчую аснову дадзенага даследавання складаюць успаміны сведкаў і ўдзельнікаў падзей Бернарда Янушкевіч, Ядзвігі Лоўкіс, Зінаіды Урбановіч. Б. Янушкевіч і Я. Лоўкіс – католікі, адносілі сябе да палякаў. Янушкевічы жылі ў в. Крупва недалёка ад Ліды, мелі 3 гектары зямлі, сям'я Лоўкіс – з Астроўлі, што таксама каля Ліды, была досыць заможнай, валодала 20 гектарамі зямлі. Зінаіда Урбановіч пражывала ў в. Мыто Лідскага павета, праваслаўная, беларуска, з яе слоў, мела 6 загонаў зямлі (калі асноўная частка жыхароў вёскі мелі 1 загон). У 1939 г. жанчыны мелі ад 7 да 17 гадоў. Таксама выкарыстоўваюцца

звесткі жыхара Ліды Тадэвуша Комінча, які збірае ўспаміны лідчан пра апошнюю вайну.

1 верасня 1939 г. выбухнула Другая сусветная вайна, якая пачалася з агрэсіі фашысцкай Германіі супраць Польшчы. Прыкметы блізкай вайны з'явіліся ў Лідзе яшчэ да яе пачатку. Прадстаўнікі ўлады вучылі насельніцтва правільна наклейваць палоскі паперы на вокны, каб шкло не лопнула пад час бамбёжкі. Усюды віселі заклікі, якія павінны былі ўздымаць дух насельніцтва: «Моцныя, згуртаваныя, падрыхтаваныя». Па радыё ішлі бадзёрыя перадачы, час ад часу сустракаліся заклікі прыносіць грошы ў Фонд народнай абароны Польшчы. Не переставалі гучаць запэўніванні ў гатоўнасці даць адпор ворагу. Многія жанчыны пад уздзеяннем патрыятычных заклікаў аддавалі на абарону краіны свае ўпрыгожванні і нават заручальныя пярсцёнкі [3, с. 289].

Людзі для забеспячэння свайго жыцця на доўгі і няпэўны час дадаткова шукалі прадуктаў і іншыя неабходныя для жыцця рэчы. Узрасла колькасць злачынстваў.

Вераснёўскія падзеі 1939 г. выклікалі неадназначную рэакцыю на гэтую сітуацыю. Насельніцтва падзялілася на два лагеры: тыя, хто падтрымліваў прыход Чырвонай Арміі, і іх праціўнікі. Гэты падзел быў выкліканы тым, што кожны па-рознаму ўяўляў будучыню з новай уладай.

Ядзвіга Лоўкіс сведчыць: «Вельмі палохалі звесткі аб хуткім прыходзе саветаў. Яны ішлі без баёў, і ад гэтага станавілася страшней». Але былі і тыя, хто чакаў прыходу савецкай улады. Адны разлічвалі на абарону і падтрымку савецкай улады, іншыя – на лепшае, чым у Польшчы, жыццё.

16 верасня 1939 г. да Ліды дайшлі чуткі, што Чырвоная Армія ідзе вызваляць Заходнюю Беларусь. Вечарам, калі пачало цямнець, запалілі вулічныя лямпы, якія з пачатку вайны не запальвалі. Аказваецца, бургамістр горада Задурскі, даведаўшыся, што савецкія войскі перайшлі мяжу, перастаў падтрымліваць меры супрацьпаветранай бяспекі [3, с. 290]. Бернарда Янушкевіч успамінае: «Жыхары Ліды прадчувалі, што толькі немцамі тут не абыйдзецца. Гэтыя дні былі вельмі трывожныя».

17 верасня Ліда нагадвала ўстрывожаны мурашнік. Неспакойна было ў вайсковых гарнізонах, паліцыі. Яшчэ большую паніку прыўнёс самалёт, які кружыў над горадам. Людзі вырашылі, што гэта Чырвоная Армія [3, с. 290]. Пасля такіх размоў багатыя гараджане пачалі збіраць рэчы і выязджаць з Ліды. Як уцякалі асаднікі з вёскі, успамінае Зінаіда Урбановіч: «Шмат тады палякаў уцякала. Мы тады да бацюшкі хадзілі радыё слухаць, там яны па-свайму гаварылі: «Nasza Polska silna i potężna». Мы выходзім, наслухаўшыся радыё, а яны ўжо каня запрэглі і рэчы сабралі. А адзін згубіўся, заехаў у Мыто і нават не ведаў, дзе знаходзіцца. Уцякалі хто куды».

Найперш апусцела памяшканне паліцыі, а ў будынку гарадской улады чыноўнікі збіралі паперы. Тыя, хто баяўся савецкай улады, выязджалі ў Вільню. Ядзвіга Лоўкіс расказала: «Людзі бачылі, што паны выязджаюць, пакідаючы свае маёнткі, але не ўсе ехалі, некаторыя заставаліся. Напрыклад, пан Пілецкі».

У адрозненне ад распаўсюджанага меркавання, што працоўныя Заходняй Беларусі віталі прыход Чырвонай Арміі, Бернарда Янушкевіч успамінае: «17 верасня наша сям’я плакала па Польшчы, якую з двух бакоў раздзіралі Германія і Савецкі Саюз».

Савецкую ўладу на сваёй зямлі чакалі не толькі простыя бедныя людзі, але і прыезджыя з Расіі. Тадэвуш Комінч паведаміў пра купцоў Комалавых. Да вайны яны жылі спачатку ў Пецярбургу, пазней пераехалі ў Ліду, іх хата была на сучаснай вуліцы П. Марозава. Калі Комалавы даведаліся пра пачатак вайны, яны сабралі суседзяў і пачалі падбухторваць іх дапамагаць рускім. Жонка Комалавага выйшла ў рускай хустцы, тым самым падкрэсліваючы свае адносіны да падзей, якія адбываліся ў свеце. Але лёс іх склаўся нешчаслівае: калі прыйшлі бальшавікі, гэту сям’ю арыштавалі, дзяцей раскідалі па Савецкаму Саюзу, старэйшую дачку адправілі ў канцлагер.

Ядзвіга Лоўкіс пра тое, як чакалі Чырвоную Армію, успамінае так: «Чырвонаармейцаў чакалі яўрэі (бо страх як баяліся немцаў) і камуністы». Пра гэтыя падзеі Бернарда

Янушкевіч успамінае такім чынам: «Прыхільнікі саветаў чакалі прыходу чырвонаармейцаў, як некага свята. Марылі, што атрымаюць вялікія багацці, нічога не рабіўшы. Уяўлялі Чырвоную Армію багатай, добра ўзброенай арміяй, якая магла захапіць увесь свет. Лічылі, што з СССР прыйдуць простыя рабочыя, а выглядаць будуць як сапраўдныя паны».

Ліда была занята часцямі РЧСА без супраціўлення. І гэта зразумела: усе вайсковыя злучэнні, якія дыслацыраваліся тут перад вайной, былі накіраваны на захад, на польска-германскі фронт. А тыя, што засталіся для аховы вайсковых аб'ектаў, аказаць супраціўленне не маглі, бо іх было вельмі мала. Да таго ж быў загад Галоўнакамандуючага Войска Польскага Маршала Э. Рыдза-Сміглага: «З Саветамі не ваяваць, толькі ў выпадку націску з іх боку ці спроб разбраення нашых часцей...» [1].

Вечарам у суботу 17 верасня прыехалі тры танкі, даехалі да рынка. Яўрэі іх сустракалі хлебам-соллю, затым салдаты развярнуліся і паехалі за горад. Ноччу на перасячэнні вуліц Гражыны і Вызвалення (сучасныя Калініна і Энгельса) былі ўстаноўлены трыумфальныя вароты для сустрэчы чырвонаармейцаў, горад быў упрыгожаны транспарантамі і сцягамі [3, с. 294].

Старажыл г. Ліды А.Ф. Кулеш сцвярджае: «Заходнія беларусы сустрэлі РСЧА кветкамі, шматлікімі мітынгамі, прывітальнымі шэсцямі, масавымі гуляннямі. Паўсюду раздаваліся здравіцы на яе адрас, на адрас правадыроў партыі і савецкай дзяржавы» [2, с. 141].

Такія факты сапраўды мелі месца, але заслуга ў гэтым лідскіх камуністаў, якія добра падрыхтаваліся да прыходу савецкай улады. Яны правялі агітацыю сярод насельніцтва, і іх плённая праца не засталася незаўважанай. Знайшліся людзі, якім не падабаўся ранейшы рэжым, але яны баяліся ўступаць у камуністычную партыю. А цяпер, калі вось-вось прыйдзе Чырвоная Армія і ўсё роўна раней ці пазней прыйдзецца станавіцца камуністамі, жыць каля іх, працаваць з імі, то можна без страху падтрымліваць новую ўладу.

А.Ф. Кулеш успамінае пра сустрэчу чырвонаармейцаў у

в. Збяляны: «На ўсходнім канцы вёскі пабудавалі арку. Працавалі ўсю ноч. Арку аздобілі восеньскімі кветкамі. Верх яе ўвянчалі пяціканечнай чырвонай зоркай. Рыхтаваліся да сустрэчы са сваёй «вызваліцелькай», як да самага вялікага свята. На другі дзень, не дачакаўшыся прыходу Чырвонай Арміі ў вёску, амаль усе маладыя ды і многія старэйшыя сяльчане накіраваліся сустракаць яе ў мястэчка Беліца. Там на рыначнай плошчы, у самым цэнтры мястэчка, сабралася мноства народа. І на гэты раз нікога спаткаць не давялося.

Нехта з былых упраўленцаў Беліцкай гміны ўзышоў на імправізаваную трыбуну і голасна абʼявў, што Чырвоная Армія не прыйдзе. Яна на патрабаванне Англіі і Францыі спыніла свой паход на захад. Усе кінуліся дамоў. Рыначная плошча раптам апусцела. На наступны дзень ў вёску завітала адна з часцей РСЧА, і ўсё сціхла. Страх адышоў, жыццё вярнулася ў звыклае рэчышча. Затое ахапіла новае пачуццё – трывога за будучыню» [2, с. 142].

Раніцай 18 верасня 1939 г. жыхары Ліды ўбачылі танкі з намаляванымі на іх чырвонымі зоркамі. Але доўга яны не затрымаліся і хутка пайшлі на захад.

Праз чатыры гадзіны на навагрудскім тракце паказалася машына з СССР і падʼехала пад замкавыя сцены. Там адбыўся мітынг. Чырвоны камандзір гаварыў аб шчасці, якое выпала байцам – вызваляць адзінакроўных братоў з Заходняй Беларусі [3, с. 294].

У выніку імклівага паходу РЧСА захапіла шмат ваенных трафеяў, у тым ліку на Лідскім аэрадроме 23 самалёты, з якіх 11 былі ў належным стане.

Прыблізна ў 18 гадзін вечара ў замку адбыўся мітынг, у якім ўдзельнічалі каля 8 тысяч чалавек. Уся плошча каля замка была запоўнена людзьмі. Чырвонаармейцы раздавалі ўдзельнікам мітынга газеты з СССР, брашуры, кнігі. На мітынгу выступіў камандзір танкавага падраздзялення маёр (палкоўнік, падпалкоўнік) Быкаў (Войкаў), які пазнаёміў слухачоў з сусветнымі навінамі [3, с. 295].

Пазней падышлі першыя часці Чырвонай Арміі. Выглядалі яны не вельмі прывабна. Ядзвіга Лоўкіс чырвона-

армейцаў запомніла прыкладна так: «Брудныя, страшныя, галодныя людзі. Яны былі замучаныя, бо ішлі пешшу. На галаве былі будзёнаўкі з вялікай чырвонай зоркай. Некаторыя былі абутыя ў бацінкі, ногі былі абернуты нейкай ганучай, а некаторыя ішлі босыя. Ногі былі збітыя, з крывавымі мазалямі».

Некаторыя афіцэры Чырвонай Арміі прыязджалі разам з сваімі жонкамі. Бернарда Янушкевіч расказала, як выглядалі жонкі афіцэраў: «Жонкі афіцэраў хадзілі ў спаднічках за калена, у снягоўцах (гумовы абутак на абцасах). На галаве насілі бярэцікі. Часцей за ўсё заплятал дзве касічкі. Ніколі не бачылі такіх ночных кашуляў, камбінашак, якія былі на захадзе. Яны вырашылі, што гэта сукенкі. Жанчыны маглі ў іх хадзіць на танцы, на базар, куды заўгодна».

Сваіх хатаў камандзіры чырвонаармейцаў у Лідзе не мелі, таму вымушаны былі сяліцца ў кватэрах лідчан. Яны дыктавалі гаспадарам свае правілы, а тыя не мелі права не падпарадкавацца.

У Бернарды Янушкевіч засталіся не вельмі добрыя ўспаміны пра тое, як лейтэнант разам з жонкаю пасяліліся ў іх: «Лейтэнант сказаў нам здымаць абразы, хаваць усё тое, што якім-небудзь чынам адносілася да рэлігіі. Плакалі ўсёй сем'ёй, але выконвалі загад. Жонка афіцэра ўбачыла фігурку Маці Божай і сказала: «Пусть стоит куколка».

Шмат таго, што было на Лідчыне звычайным, здзіўляла салдат з СССР. Бернарда Янушкевіч расказвала: «Яны ніколі не бачылі клінковага хатняга сыру, які рабілі ў кожнай хаце. Калі чырвонаармейцаў пачаставалі такім сырам, ён ім вельмі спадабаўся, але рэзалі яны яго разам з тканінай, у якой сыр быў прыгатаваны. Або лічылі, што сала склеенае, бо ніколі не бачылі, каб яно было такіх памераў. Незвычайным для іх было і масла, салдаты тыкалі ў яго відэльцамі».

Паступова жыццё вярталася ў сваё рэчышча. Насельніцтва пачынала займацца сваёй штодзённай працай. Пачалі працаваць школы, бальніцы. Але ў фабрык не было магчымасцей аднавіць сваю працу. А камуністы зноў пачыналі праводзіць агітацыю сярод насельніцтва, цяпер ім дапама-

галі чырвонаармейцы, якія прыходзілі і апісвалі, як добра яны жывуць без паноў і як у іх усяго шмат. Бернарда Янушкевіч расказала: «Калі людзі чым-небудзь частавалі салдатаў Чырвонай Арміі, то яны абяцалі, што калі прыйдуць у наступны раз, то аддадуць усё ў некалькі разоў болей. Казалі, што цукар стаіць у іх на палях адразу ў мяшках, бульбы і ўсіх розных прысмакаў у іх шмат. Зямля ў СССР належыць народу, няма ніякіх паноў, а ёсць толькі ўлада народа». Пра гэта ж успамінала Ядзвіга Лоўкіс: «Саветы ездзілі па вёсках, шмат агітавалі, абяцалі. Казалі, што ў СССР шмат багаццяў. Раздавалі лістоўкі, агітавалі насельніцтва выступаць за рускіх. Абяцалі, што якую працу захочаш, на такой будзеш працаваць усё жыццё». А ў Зінаіды Урбановіч аб агітацыі засталіся такія ўспаміны: «Абяцалі шмат, напрыклад, што зямлі дадуць. Вядома ж, усе бедныя былі, верылі, бо ім дадуць што абяцалі. Нічога дрэннага не чынілі. Навезлі водкі ўсялякай у магазіны, сталі піць усе... У магазінах шмат чаго было. У нашай хаце магазін быў, дык і адзення, і прысмакаў мелі крыху больш, чым іншыя».

У Лідзе была ўведзена каменданцкая гадзіна. У першыя дні магазіны працавалі нармальна. Рубель прыраўнялі да злотага. Насельніцтва імкнулася пазбавіцца ад злотых, пакуль працуюць магазіны, адчуваючы, што хутка гэтыя грошы не будуць запатрабаваныя. Каля магазінаў збіралася вялікая чарга. Займалі чаргу, нават ноччу, нягледзячы на каменданцкую гадзіну. Гэта патрэбна было спыніць. Першы раз, каб ліквідаваць чаргу, людзей загналі ў памяшканне лазні і пратрымалі там, пакуль можна ўжо было хадзіць. Гэта не дапамагло. На другі раз было тое самае, было вырашана пагрузіць усіх у аўтамашыны і вывезці за горад кіламетраў на 15. Пакуль яны прыйшлі ў горад, каменданцкі час ужо скончыўся [3, с. 298].

Новыя ўлады патрабавалі схапіць усіх памешчыкаў, якія не паспелі ўцячы ў Літву, хоць цягнік Ліда – Вільня яшчэ хадзіў. Па лясах хадзіла польскае войска, у горад не заходзіла. Большасць – афіцэры. Тады ў Лідзе ўжо дзейнічала НКУС, кіраўніком быў Лагаеў. Афіцэраў перадавалі яму» [4, с. 9].

Бернарда Янушкевіч пацвердзіла звесткі, што каля Ліды яшчэ заставаліся польскія салдаты: «Недалёка ад Ліды знаходзілася стаянка польскіх салдат. Некаторыя імкнуліся ўцячы за мяжу, а некаторыя траплялі ў палон».

Відавочна, што далей салдатаў адпраўлялі ў лагеры. Але не толькі польскіх салдатаў, солтысаў і асаднікаў напаткаў такі лёс, але і крыху багацейшых за іншых сем’і. Ядзвіга Лоўкіс так успамінала тыя дні: «Сярод насельніцтва былі вядомы выпадкі вывазу людзей. Як правіла, вывозілі тых, што мелі маёмасць. Наша сям’я трапляла ў спіс на вываз у лагер. Мы некалькі нядзель спалі апранутыя. Але пачалася вайна немцаў і рускіх, і нас не паспелі вывезці». Зінаіда Урбановіч сведчыць: «Некаторых вывозілі. У нас лесніка вывезлі з вёскі, а яны ж жылі небагата. Вывозілі ж тых, што заможнымі былі, мы баяліся, што і нас павязуць». Бернарду Янушкевіч гэтыя падзеі абышлі: «На лідскай чыгуначнай дарозе стаяў эшалон з людзьмі. Было чуваць, як яны спяваюць песню «Serdeczna matka»». Адсюль вынікае, што органы НКУС не глядзелі на паходжанне і на маёмасны стан насельніцтва, а шукалі «ворагаў», тых, хто не падыходзіў да іх сістэмы, якія маглі б хоць як-небудзь перашкодзіць палітыцы партыі.

Першапачаткова чырвонаармейцы не прымушалі ўсіх уступаць у калгасы. Ядзвіга Лоўкіс расказвала, што адбывалася ў яе роднай вёсцы: «Саветы, прыйшоўшы ў 1939 г., нічога не рабілі, не патрабавалі. Здавалася, што яны прыглядаюцца да гаспадароў і гаспадарак. Шматдзетным сем’ям давалі тканіну».

Перад партыйнымі і савецкімі органамі кіравання была пастаўлена задача арганізаваць органы адміністрацыйнага і гаспадарчага ўпраўлення на сацыялістычных прынцыпах. Пра выбары ў мясцовае кіраванне Зінаіда Урбановіч ўспамінае: «Як прыйшлі саветы, пачалі рабіць сходы, тут нашых выбіраюць кіраваць. Прыехаў адзін Вітлянскі і кажа: «Вы ведаеце, хто я такі? Я – вялікі начальнік!». Правядзенню ўсёй гэтай працы спрыяла актыўная партыйная і масава-палітычная праца сярод насельніцтва. Праводзілася праца па тлумачэнні мясцоваму насельніцтву абставін індустрыялі-

зацыі, калектывізацыі, аб міжнародных адносінах у свеце. Утвараліся органы народнай адукацыі, клубы, бібліятэкі.

Біржа працы прымала меры па ліквідацыі беспрацоўя. У хатах былых паноў сялілі рабочых, якія мелі патрэбу ў жыллі. Арганізавана бясплатная медыцынская дапамога. Пачаліся заняткі ў школах, сярэдніх навучальных установах. Пра працу настаўнікаў у міжваенны час расказала Бернарда Янушкевіч: «Настаўнікам забаранялі вучыць на польскай мове, дазвалялася толькі руская. Яны мелі фактычна дзве змены: у першую змену яны выкладалі па-руску, у другую – па-польску». Яна расказала і пра адносіны мясцовых жыхароў да змены мовы навучання: «Насельніцтва жадала, каб дзеці вывучалі польскую мову».

22 кастрычніка адбыліся выбары ў Народны сход. Ад Ліды былі выбраны 5 чалавек. 12 лістапада Заходняя Беларусь была прынята ў склад БССР.У красавіку 1940 г. адбылася раённая партыйная канферэнцыя.

У 1940 г. было ліквідавана беспрацоўе. Адбылася рэканструкцыя старых прадпрыемстваў, узводзіліся новыя. Зарплата павялічылася. На прадпрыемствах развярнулася сапраўднае сацыялістычнае спаборніцтва. Насельніцтва падхапіла тэндэнцыю стаханаўскага руху. Некаторых за добрую працу ўзнагароджвалі паездкай у дом адпачынку або санаторый. На фабрыцы «Ардаль» былі адчынены новы цэх, медыцынскі пункт, кабінет зубнога ўрача [3, с. 300].

Але нягледзячы на пазітыўныя змены, у хуткім часе наступіла расчараванне савецкай уладай. Першымі расчараваліся яе прыхільнікі. Да іх не было даверу з боку новай улады, мала хто з іх заняў высокія пасады ў адміністрацыі, на якія яны спадзяваліся. Павялічыліся падаткі, людзей агітавалі аддаваць лішнія прадукты дзяржаве, выганялі людзей з сёл на прымусовую працу: на высечку лесу, вываз дроў, прывоз камянёў на будаўніцтва летняга поля каля Ліды, за невыкананне можна было трапіць у турму. Ствараліся калгасы, але нават самыя бедныя людзі не імкнуліся ў іх уступаць. Зінаіда Урбановіч успамінала: «У калгас усё клікалі. Прышлюць 8 чалавек, і цэлы тыдзень ходзяць. Ідуць да кожнага

ў хату і прапануюць запісацца. Потым людзям надакучыла, пайшлі ўсе і запісаліся ў калгас. Затым пачалі забіраць коней. Аралі ж яшчэ і ў калгасе, садзілі плугам». У школах ішла агітацыя за уступленне ў камсамол. Людзям забаранялася хадзіць у царкву. Каля храмаў дзяжурылі людзі, якія павінны былі журыць дзетак, а часам нават пагражалі тым, хто туды ходзіць. Людзей арыштоўвалі, вывозілі цэлымі сем’ямі. Зімой ганялі на нарыхтоўку дроў, летам – на вываз камянёў для будаўніцтва дарог і аэрадромаў.

Жыццё людзей змянілася ўжо назаўсёды. Вось так, за некалькі дзён, мясцовае насельніцтва стала жыць у іншай дзяржаве, прыстасоўвацца да яе законаў. Ва ўспамінах відавочцаў тых падзей прасочваецца той факт, што адносіны да новай улады былі насцярожаныя.

The article refers to the events of September 1939 on the example Lidchiny. Witnesses’ memories the main source of this work. Author wanted to show the relationship impurity people to events, to show the changes that brought with it new power.

## *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Коминч, А. Сентябрь 1939 г.: как это было / А. Коминч // Лідская газета. – 2009. – № 95. – 22 жніўня. – С. 2.
2. Кулеш, А. 17 верасня 1939 г. – паваротны момант у жыцці беларусаў / Кулеш, А // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання: матэрыялы навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, г. Ліда, 2008 г.; пад рэд. А. Худыка [і інш.]. – Ліда, 2008. – 141 с.
3. Сливкин, В.В. Лидаведенье. Очень краткая история для тех, кому некогда / В.В. Сливкин. – Лида, 2009. – 324 с.
4. Uszakiewicz, S. Lida sprzed laty / S. Uszakiewicz // Ziemia Lidska. – 1994. – № 14. – Maj. – C. 9.

*Навуковы кіраўнік –* **А.М. Загідулін***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.*

УДК 94(476)

*Е.А. Махнач*
*(Гродно, ГрГУ имени Янки Купалы)*

# ЕВРЕЙСКОЕ КЛАДБИЩЕ НА ЗАНЕМАНСКОМ ФОРШТАДТЕ В ГРОДНО

Статья посвящена исследованию единственного сохранившегося сегодня еврейского кладбища в Гродно. Описывается история кладбища, его современное состояние, приводится классификация надгробий и изобразительных мотивов на них.

Важной частью еврейского национального культурного и исторического наследия являются кладбища. В библейской и раввинистической лексике место захоронения имеет различные названия. Наименования «бет-кварот» («дом могил») и «бет-‘алмин» (плач) вошли в современную лексику языка иврит.

«Народное» кладбище упоминается уже в Библии, появляется во всех населенных пунктах Израиля, как следует полагать, лишь в эпоху Мишны, когда были разработаны и правила устройства кладбища. Оно должно было находиться на расстоянии не менее 50 (около 25 м) локтей от ближайшего дома поселения; участок, отведенный под кладбище, следовало огораживать. Талмуд и более поздняя раввинистическая литература строго запрещают любое действие, свидетельствующее о неуважении к усопшим (еда, питье, сон, громкий разговор, выпас скота на кладбище, использование склепов в качестве кладовых и т.п.), или пересечение территории кладбища с целью сокращения пути [5, с. 332].

В христианских и мусульманских странах средневековой Европы наличие у еврейской общины кладбища было признаком ее жизнеспособности и признания властями. Иногда правители, заинтересованные в участии евреев в развитии экономики подвластных им городов, старались привлекать их в свои владения, предоставляя им, наряду с прочими, не-

обходимые для кладбища участки земли.

Кладбища еврейских общин средневековой Европы обычно располагались на краю гетто, при них имелось особое строение для омовения покойников (хадар тохора). Из-за небольших размеров кладбища часто приходилось хоронить в два (а иногда и более) слоя, оставляя между ними пласт земли толщиною в шесть ладоней, равный предписанному минимальному расстоянию между смежными могилами [5, с. 344].

К сожалению, в г. Гродно сохранилось лишь одно кладбище. Однако из исторических источников известно, что в период с XV до середины XX вв. в городе существовало три еврейских кладбища. Наиболее древнее занимало пространство вдоль ул. Кривой (сейчас на этом месте находятся автосервис и детский садик).

На кладбище также располагалась постройка, которая принадлежала гродненской еврейской общине. Здесь до Второй мировой войны размещались канцелярия похоронного общества и сторожка [2, с. 364].

Вероятно, на старом кладбище уже в XVIII в. практически не осталось свободного места для захоронения, поэтому возникла необходимость в создании нового кладбища. Оно было заложено рядом с городом, на месте прежнего выгона, возле Грандичской дороги (современная ул. Горького). Из документов Гродненской городской управы вытекает, что новое кладбище было открыто в 1791 г. Новое еврейское кладбище было самым большим по размерам, оно неоднократно расширялось за счет соседних земель в 1869, 1883, 1905 и 1923 гг. Тут же была и постройка, где размещались морг и сторожка. Кладбище закрылось в 1947 г. В 1958 г. началось его уничтожение. Уже в 1963 г. на месте кладбища построили стадион «Красное Знамя» [2, с. 365].

Единственное сохранившееся еврейское кладбище находится на занеманском форштадте, в лесном массиве, ниже по течению р. Неман от Нового моста. Основали его в XVIII в. для захоронения евреев этой части города. Здесь

сохранилось более 2000 надмогильных памятников-мацев [2, с. 366].

На некоторых небольших еврейских кладбищах могилы копали в последовательности погребений. Однако на большинстве кладбищ было принято выделять особый участок для погребения раввинов и других знатных или благочестивых членов общины. На многих кладбищах мужчин и женщин хоронили в разных рядах. Вероотступников, отлученных от общины и самоубийц следовало хоронить в отдаленном углу кладбища или за его оградой. Запрещалось погребать рядом враждующих, а также грешников и праведников [5, с. 344].

На гродненском еврейском кладбище похоронен раввин Александр Зыскинд, умерший в 1794 г. Памятник на его могиле был установлен в 1990-е гг. Перед смертью А. Зыскинд завещал не хоронить никого, кроме праведников, ближе 100 метров от его могилы. И там всегда было свободное место. Именно благодаря этому факту удалось отыскать его могилу. На этом же кладбище похоронен Шимон Шкоп – известный гродненский раввин.

Кладбище было закрыто советскими властями в 1968 г. [2, с. 366].

Старые кладбища огораживались земельно-каменными валами или примитивными каменными стенами, чаще всего на известковом растворе. Встречаются ограды из кирпича и бетона (д. Семятичи). Некоторые кладбища обносились рвом или траншеей. Так, например, благодаря наличию таких окопов получила название ул. Окопова в г. Варшаве, на которой находилось еврейское кладбище. Не огораживались кладбища малых гминов, их границами являлись лесные деревья, дорога, вспаханная полоса земли и т.д. [3, с. 105].

Границы гродненского еврейского кладбища определяет стена из камней, скрепленная известковым раствором. Сегодня каменная стена во многих местах разрушена, прорехи закрыты вставками из современных материалов. По остаткам каменной стены можно проследить изначальную

локализацию кладбища – оно занимало большую территорию, чем сегодня. Вход на кладбище представлен воротами в виде арки с железными створками, украшенными кованой шестиконечной звездой (Фото 1).

Все надгробия на кладбище можно подразделить на саркофаги и мацевы. Главная особенность саркофага заключается в том, что он не закапывается в землю. У евреев саркофаги начинают использоваться, вероятно, лишь к концу периода Второго храма. В Европе еврейские саркофаги встречаются довольно редко. Позволить их могли только обеспеченные люди [3, с. 106].

На кладбище в Гродно сохранилось 4 саркофага (фото 2). Интерес вызывает крипта, которую можно отнести к захоронениям типа саркофага (фото 3). Высота крипты составляет около 2 метров. Примечательно, что в таком богатом захоронении на надгробии размещена довольно скромная эпитафия, всего несколько строк. Из нее удалось узнать, что крипта принадлежит покойному по фамилии Рискин.

Захоронения-саркофаги можно встретить, например, в Польше на люблинском еврейском кладбище, а также на кладбищах в местечках на юго-востоке Волыни.

Другой тип надгробия – мацева. Обычно материалом для еврейских надгробий служил камень. Первое надгробие, упоминаемое в Библии и относящееся к периоду патриархов, – это мацева, установленная Иаковом на могиле Рахили.

Установка надгробия стала традицией, имеется специальный обряд их освящения. В диаспоре надгробие с XVI в. обычно устанавливают и освящают по истечении 12 месяцев после погребения. Оригинальность и вместе с тем традиционность являются характерными чертами искусства еврейских надгробий, часто отличающихся богатством декора и разнообразием символики. Изучение еврейских надгробий дает обширный материал не только по эпиграфике, но и по истории еврейского искусства с древних времен до настоящего времени [4, с. 577].

Условно содержание мацевы можно подразделить на две

части: символическая, или орнаментная часть и эпитафия. Однако наличие на памятнике символических изображений вовсе необязательно, чего нельзя сказать об эпитафиях.

В Центральной и Восточной Европе развился своеобразный стиль орнамента с использованием растительных и зооморфных мотивов, особенно в рамке вокруг эпитафии. Но и сама эпитафия благодаря эмоционально-выразительному начертанию еврейских букв и варьированию их ширины часто становилась основным декоративным элементом надгробия. Изображение на надгробии звезды Давида как символа иудаизма получило широкое распространение лишь в XIX в. До этого шестиконечная звезда на надгробиях практически не встречалась [4, с. 579].

Необходимо отметить, что народные мастера, вырезавшие и раскрашивавшие надгробия, заимствовали животные и растительные формы не из окружающего мира, а из росписей синагог и декоративных арон-кодешей [5, с. 88].

До нашего времени сохранилась определенная группа еврейских художественных памятников, относящихся к пространственно-временному ареалу ашкеназского мира, где существовала практика росписи синагог. Речь идет об иллюстрированных рукописях из Германии, некоторые миниатюры которых при сопоставлении с работами еврейских мастеров Восточной Европы обнаруживают удивительное соответствие изобразительных форм. Здесь мы видим не случайное совпадение отдельных фигур, но повторение целых мотивов и композиций. Разделенные несколькими столетиями и расстоянием в тысячи километров, памятники ашкеназской культуры из средневековой Европы и местечек Украины, Польши и Беларуси явно демонстрируют преемственность одной традиции [5, с. 89].

Со второй половины XIX в. декоративное оформление еврейских надгробий упрощается. Все чаще на них вырезаются только буквенные (шрифтовые) надписи, без каких бы то ни было украшений. К концу XIX–началу XX вв. еврейские надгробия все больше и больше отходят от национальных

традиций. Используются гранитные полированные камни, на которых на идиш или на иврите (чаще всего по-русски) делаются посвятительные надписи: фамилия, имя, даты жизни, сообщается о социальном происхождении (купец, раввин, почетный гражданин и т.д.). Чаще всего сохраняются изображения звезды Давида и семисвечника.

На гродненском кладбище можно встретить мацевы разных форм. В большинстве своем это стелы, отличающиеся друг от друга верхним окончанием. Они могут иметь форму треугольника, быть плоскими или иметь закругленную форму. Последнюю можно связать с образом скрижалей.

Что касается орнамента на мацевах, то сохранились надгробия со следующей символикой: звезда Давида, подсвечник, ладони, корона. Все эти символы, как отмечалось выше, имеют определенное значение.

Звезда Давида встречается на мацевах примерно со второй половины XIX в. Как самый известный символ иудаизма она имеет множество значений. Это символ недели и символ семи планет. Ее характеризуют как каббалистический знак проникновения мира видимого в мир невидимый, пересечения земного и небесного, соединения мужского и женского начал. Однако в данной ситуации звезда обозначает национальную и религиозную принадлежность [3, с. 122]. Звезда может быть украшена, например, растительным орнаментом.

Мацевы, на которых изображены ладони, сложенные в жесте благословения, принадлежат умершим из рода капланов, по древней традиции, потомков архикаплана Аарона, главных субъектов жертвенной службы в святыни иерусалимской. Представители этого рода могли носить фамилии Кон, Цохен, Кохен, Коган, Кац [3, с. 125].

Корона символизирует знания, мудрость и набожность умершего, это знак Торы. Корона может быть изображена вместе с ладонями каплана, книгой, львами, оленями и в других композициях. Надгробие с короной принадлежит покойному ученому в книгах иудаизма, но может означать

также главу рода. Значений много: корона капланства, корона доброго имени. Выступает также иногда на надгробиях женщин вместе с цитатой о том, что была она короной своего супруга [3, с. 126]. На гродненском кладбище сохранились надгробия с изображением именно композиции корона с ладонями (фото 4).

Светильник на надгробии чаще всего отмечается на надгробиях женщин. Часто «ветви» подсвечника украшены растительными формами или являются ветвями с листьями и цветами, что иногда больше напоминает дерево, нежели собственно подсвечник [6, с. 182]. На гродненском кладбище сохранилось единственное надгробие с изображением подсвечника, который имеет 9 свечей (фото 5). Такой тип подсвечника называется ханукея (зажигается на праздник Ханука). Это, в свою очередь, может означать, что погребенный человек родился или умер на Хануку.

Кроме вышеназванных, на кладбище занеманского форштадта имеются надгробия в виде стволов деревьев с отрубленными ветвями. Такие надгробия устанавливались в случаях, когда погребенный умер молодым или же погиб во время погрома. В еврейской традиции сломанное дерево – символ прерванной жизни [3 с. 125].

Более важной и информативной частью мацевы является эпитафия. Содержание эпитафий не регламентируется требованиями еврейской религии. Более того, мудрецы Талмуда подвергали сомнению саму необходимость в надгробном памятнике, поскольку этот обычай вызывал ассоциации с идолопоклонством. Тем не менее, к концу I тысячелетия н.э. как в Европе, так и на Востоке складывается традиция еврейских эпитафий. Содержание эпитафий хоть и не было регламентировано религией, разумеется, отражало традиционные еврейские ценности и представления [7, с. 137].

Хотя на гродненском кладбище большинство записей сделано на иврите, иногда встречаются смешанные надписи в виде краткого пояснения под основной эпитафией. Важно отметить тот факт, что со временем тенденция написания

традиционной эпитафии утрачивается. На захоронениях, относящихся ко второй половине XX в., отсутствует характерная структура эпитафии. Надписи представлены на надгробиях любых кладбищ того времени, кроме того, выполнены на русском языке. Это можно связать с утратой еврейской общиной связей с национальными традициями под влиянием советского образа жизни, а также тем, что во время войны практически все еврейское население г. Гродно было уничтожено. В результате не осталось хранителей знаний и традиций, которые могли бы проводить похоронный обряд в полном соответствии с еврейскими традициями.

Jews has long been settled in our lands. The paper describes such a monument of Jewish culture, as a cemetery. Conducted a historical analysis of the Jewish cemetery in Grodno.

### *Список источников и литературы*

1. Кладбище // Краткая еврейская энциклопедия. – Иерусалим, 1988. – Т. 4. – С. 332–337.
2. Сьляды яўрэйскага жыцця. Праваднік па яўрэйскай Гародні // ARCHE – 2010 – чэрвень. – С. 344–416.
3. Wiśniewski, T. Nieistniejące mniejsze Cmentarze Żydowskie / T. Wiśniewski. – Białystok: Instytut wydawniczy KREATOR, 2009. – 146 s.
4. Надгробие // Краткая еврейская энциклопедия. – Иерусалим, 1990. – Т. 5. – С. 577–582.
5. 100 еврейских местечек Украины: исторический путеводитель. – Выпуск 2: Подолия / сост. В. Лукин, А. Соколова, Б. Хаймович; отв. ред. В. Лукин. – СПб.: Издатель А. Гершт, 2000. – 704 с.
6. Гольцман, А. Изобразительные мотивы на еврейских надгробиях Восточной Европы (менора и символика света) / А. Гольцман // Latvijas universitate [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.lu.lv/materiali/studiju-centri/jsc/resursi/171-188.pdf. – Дата доступа: 14.03.2011.
7. Носовский, М. Старинные еврейские кладбища Украины: история, памятники, эпитафии / М. Носовский // Евроазистский еврейский ежегодник (2007–2008) / Паллада; под ред. М. Членова (гл. ред.) [и др.]. –Москва, 2008. – С. 228–254.

*Научный руководитель –* **А.Н. Загидулин***, кандидат исторических наук, доцент.*

